Установа «Міжкультурны дыялог»
Дзяржаўны інстытут кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ

# МІЖКУЛЬТУРНЫ ДЫЯЛОГ:
## СУЧАСНАЯ ПАРАДЫГМА І ВОПЫТ СУСЕДСТВА

# INTERCULTURAL DIALOGUE:
## MODERN PARADIGM AND EXPERIENCE OF THE NEIGHBORHOOD

Мінск
ДІКСТ БДУ
2014

УДК 008(082)
ББК 71(4Беи)
М58

Рэкамендавана Саветам Дзяржаўнага інстытута кіравання
і сацыяльных тэхналогій БДУ

Складальнік і навуковы рэдактар:
кандыдат філалагічных навук,
дацэнт *Л. Уладыкоўская*

Рэцэнзенты:
кандыдат юрыдычных навук, дацэнт *В. Манкевіч*;
кандыдат філасофскіх навук, дацэнт *В. Анохіна*

**Міжкультурны** дыялог: сучасная парадыгма і во-
М58 пыт суседства : зб. навук. арт. / склад. і навук. рэд.
Л. Уладыкоўская. – Мінск : ДІКСТ БДУ, 2014. – 96 с.

ISBN 978-985-491-127-4.

У зборнік навуковых артыкулаў «Міжкультурны дыялог»: сучасная парадыгма і вопыт суседства" увайшлі выбраныя матэрыялы аднайменнай Міжнароднай навуковай канферэнцыі, арганізаванай Польскім інстытутам у Мінску, Дзяржаўным інстытутам кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ, установай «Міжкультурны дыялог» (Мінск, 24 мая 2013 г.), а таксама навуковыя распрацоўкі замежных аўтараў. У артыкулах разглядаюцца розныя аспекты і сучасныя канцэпцыі міжкультурнага дыялогу, а таксама асновы метадалогіі яго даследавання.

**УДК 008(082)**
**ББК 71(4Беи)**

*Кніга падрыхтавана пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску*

**ISBN 978-985-491-127-4**

# ЗМЕСТ

# УСТУП

Адзін з самых актуальных трэндаў у сучаснай навуцы і сацыяльнай практыцы – міжкультурны дыялог.

Міжкультурны дыялог гістарычна ўласцівы Беларусі, як і многім іншым краінам, у тым ліку нашым суседзям, але ў якасці сучаснага глабальнага феномену ён патрабуе спецыяльнага інтэрдысцыплінарнага аналізу, якога ў нашай краіне да гэтага часу не праводзілася.

Паказаць стан спраў і вызначыць магчымыя асноўныя напрамкі развіцця даследаванняў у гэтай сферы і была заклікана Міжнародная навуковая канферэнцыя «Міжкультурны дыялог: сучасная парадыгма і вопыт суседства», арганізаваная 24 мая 2013 г. у г. Мінску ўстановай «Міжкультурны дыялог», Польскім інстытутам у Мінску і Дзяржаўным інстытутам кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ.

Пытанні сучаснага разумення міжкультурнага дыялогу, а таксама формаў яго рэалізацыі на розных узроўнях абмяркоўвалі вучоныя з Беларусі, Польшчы, Украіны, дзеячы культуры, святары, бізнесоўцы, прадстаўнікі дыпламатычных місій у Рэспубліцы Беларусь, міжнародных арганізацый.

Асаблівую цікавасць і шмат пытанняў прысутных выклікалі грунтоўнае выступленне Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь Іосіфа Шагала, які сістэмна прааналізаваў практычнае значэнне міжкультурнага дыялогу ў сучаснай геапалітыцы; выступленні дырэктара Польскага Інстытута ў Мінску Сп. Уршулі Дарашэўскай, Яго Эксцэленцыі Біскупа Антонія Дзямянкі, прафесара Людмілы Рычковай, акадэміка Яўгена Бабосава, прафесара Вячаслава Мянькоўскага, прафесара Марыі Путровай, польскіх сацыёлагаў Томаша Маслянкі і Марты Ярашэвіч, падчас якіх былі закранутыя розныя аспекты міжкультурнага дыялогу і неабходнасць яго развіцця.

Канферэнцыя была аздобленая выставай беларускай народнай творчасці «Подых часу», на якой былі прэзентаваны ўзоры традыцыйных беларускіх рамёстваў і промыслаў. Выступіў струнны квінтэт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі (мастацкі кіраўнік – Людміла Анцікона-Кабальера).

Першая ў Беларусі канферэнцыя, прысвечаная сістэмнаму асэнсаванню міжкультурнага дыялогу, паказала, што вынесеная на разгляд праблематыка з'яўляецца выключна актуальнай як для сусветнай сацыягуманітарнай навукі, так і для міжнароднай практыкі. Важна, што ўдалося прыцягнуць экспертаў розных галін ведаў і прафесійных груп, школ і перакананняў, што само па сабе стала фактам практычнага міжкультурнага дыялогу. Сустрэча, аднак, засведчыла, што неабходна ў першую чаргу распрацаваць методыку і метадалогію даследаванняў міжкультурнага дыялогу: шырокі спектр падыходаў да акрэсленага праблемнага поля сведчыць не толькі пра шматграннасць самога міжкультурнага дыялогу, але пра яго метадалагічную, тэарэтычную нераспрацаванасць. Часткова гэтае пытанне закранаецца ў артыкуле Дырэктара Цэнтра міжкультурнага дыялогу, які дзейнічае ў Вашынгтоне з 2010 г., прафесара Вэндзі Лідз-Гурвідз. Іншыя ж даследчыкі, чые артыкулы – такія розныя па ўзроўню – ўвайшлі ў кнігу, сканцэнтравалі сваю ўвагу на пытаннях глабальнай культуры і дыялогу нацыянальных культур, як таленавіта зрабіў тое акадэмік Яўген Бабосаў, на ролі сацыяльнай памяці ў міжкультурнай камунікацыі, як чытаем у артыкуле варшаўскага сацыёлага Томаша Маслянкі, на культурнай ідэнтычнасці як умове міжкультурнага дыялогу, пра што грунтоўна напісала вядомая прафесар з Гродна Людміла Рычкова, на міжнародных аспектах міжкультурнага дыялогу, як у артыкуле шведазнаўцы Любові Варашуха, на маральных асновах культурнага ўзаемадзеяння, на чым спыняе ўвагу чытача філосаф і гісторык Вольга Паўлоўская, і інш.

Відавочна, што міжкультурны дыялог мае патрэбу ў сваім працягу – праз новыя даследаванні, дыскусіі і супрацоўніцтва.

*Любоў Уладыкоўская,*
*Васіль Стражаў,*
*Пётр Брыгадзін*

**Wendy Leeds-Hurwitz**
**(Washington)**

# DIALOGUE ABOUT DIALOGUE: TAKING A (META) COMMUNICATION PERSPECTIVE ON INTERCULTURAL DIALOGUE

*An earlier version of this paper was presented to the World Forum on Intercultural Dialogue, Baku, Azerbaijan, April 7–9, 2011. My thanks to Dr. Katérina Stenou of UNESCO for inviting me to participate in the panel she organized for that event.*

**Introduction**

Intercultural dialogue has been named one of the most pressing global challenges (Council of Europe, 2008). Intriguingly, practitioners (politicians, negotiators, etc.) utilize this term, far more often than scholars (who instead talk of intercultural communication, intercultural competencies and other such phrases). Since "intercultural dialogue» has not yet gained currency as a major research topic, the theoretical grounding required to support an understanding of what elements contribute to successful intercultural dialogue has yet to be developed. This is not to imply a lack of relevant studies, but the research results need to be synthesized and expanded in order to provide a substantial theoretical foundation. To date, while a number of individual researchers are pursing a variety of potentially relevant projects, little effort has been made to bring them together, or to ensure that the information is accessible for applied contexts.

As a Communication scholar, it seems to me that Communication research in particular has much to offer our understanding of intercultural dialogue. Other disciplines have much to offer as well, of course, but I can only speak for my own.

**A (Meta)Communication Perspective**

What role does Communication specifically play in expanding our understanding of intercultural dialogue? Communication is one of the "soft skills» often named as essential to holding intercultural dialogues (as in

Wilson, 2010). In today's world, everyone needs the capacity for tolerance of difference upon which intercultural dialogue depends. Communication scholars already conduct research into, and provide training in, intercultural competencies and skills, whether for their own students, or through workshops offered to a wide variety of organizations. It seems obvious that their knowledge should be taken into account (as with Hoover, 2011).

Communication is *not* best understood as the medium through which objective facts are represented; instead, a far more productive approach is to understand **communication as the *process* by which facts themselves are constructed, maintained, and changed**. Members of different cultures do not merely use different forms of communication to convey the same ideas and experiences; rather, they actually "experience different ways of being human *because* they communicate differently» (Pearce, 1989, p. xvii).

As a discipline, Communication includes many research areas relevant to an understanding of intercultural dialogue. To just mention a few specific strands: Intercultural and International Communication not only study the ways in which members of particular groups interact, but also how particular groups come to be excluded from public conversations; Language and Social Interaction not only examines the details of speech and nonverbal behavior, but also the circumstances under which identity becomes flexible; Conflict Resolution contributes to an understanding of both conflict and mediation. More generally, research within a wide variety of subfields (including Organizational Communication, Interpersonal Communication, Rhetoric, Media, Social Networking, Journalism, Popular Culture, Public Relations and Marketing) provides insights potentially relevant to an understanding of intercultural dialogue. Communication is above all a pragmatic discipline; many Communication scholars are themselves practitioners, especially those in the media (including those who train students who become the next generation of newspaper journalists or television reporters), but also including trainers who work in intercultural and/or dialogue contexts at an interpersonal level, or organizational scholars who study multinational corporations. Communication has a history of examining intercultural contexts, of providing diversity training with a focus on intercultural competence. What the scholars already know could, with only a little effort, be synthesized and expanded, and brought to the attention of practitioners, just as the intercultural dialogues that practitioners call for would benefit from careful study.

A set of theoretical concepts and analytic tools central to understanding intercultural dialogue in any context and at any level would be a valuable contribution, and Communication scholars use many relevant concepts. In the following section, a few are briefly introduced.

**1. Identity construction**

Calls for intercultural dialogue take for granted that people have relatively stable identities, and that individuals can be treated as representatives of national, racial, ethnic, or gendered groups. However, this is not always the case. A few extreme examples: some women have, on occasion, been considered honorary men. Margaret Mead, the famous American anthropologist, has been called “the ultimate honorary male anthropologist» (Warren, 1988, p. 59). Even race has proved more malleable than might be expected: in some contexts, some blacks have been treated as honorary whites, as with Nelson Mandela in post-Apartheid South Africa. These and other examples provide evidence that **identity is not stable, as traditionally assumed, but is rather socially constructed by participants, through interaction** (Galanes & Leeds-Hurwitz, 2009). The management of multiple identities is a particularly urgent topic, since everyone plays different roles across different contexts, whether related to nationality, race, ethnicity, gender, age, social class, occupation, relationships, or social roles. Each person sees him or herself as complex, as having multiple social roles and affiliations. It is most often others who come to be viewed as only one-dimensional. This is inaccurate, resulting in stereotyping. The “other» is just as complex as the “self,» even when the complexities are less obvious. Identity construction is a major emphasis among Communication scholars (e.g., Fong & Chuang, 2004; Jung & Hecht, 2009; Kuhn & Nelson, 2002). Some of the most potentially relevant research concerns the simultaneous display of multiple identities (as in Leeds-Hurwitz, 2002).

**2. Narratives**

A tool of proven value, often but not only used in identity studies, is the analysis of **how narratives are jointly constructed, influencing memory and understanding of what has happened in the past, what is happening in the present, or establishing new possibilities for the future**. Who tells what stories about themselves, their own group, or other groups, to their children or to others, on what occasions, including or omitting what details, with what results, and how the same event is constructed in

different ways by different storytellers are among the potential questions that narrative analysis asks and answers. Narratives are central to childhood socialization, including socialization to cultural identity (Leeds-Hurwitz, 2005; Schely-Newman, 2002), and to constructing competing histories in contexts of intergroup conflict (Katriel, 1997), but it is media narratives that have been a particular focus of attention most often (Mander, 1999; Zelizar, 2000).

### 3. Explicit Metacommunication

***Holding conversations about dialogue, whether intercultural or not, constitutes an explicit form of metacommunication or "communication about communication»*** (see Ruesch & Bateson, 1951; Watzlawick, Beavin & Jackson, 1967). Metacommunication has two functions: "to illuminate the patterns underlying daily interactions and to display the complexity of what happens when people interact with one another» (Leeds-Hurwitz, 1989, p. 139). The universal human ability to freeze an interaction in order to talk about and reflect upon what is occurring permits participants to understand the multiple (and potentially conflicting) frames used during interaction, to reveal ways in which their assumptions differ. Metacommunication permits the transformation of what typically remains implicit into an explicit topic of conversation, providing vocabulary available to defuse if not prevent inadvertent misunderstandings. Explicit metacommunication requires that participants take a reflexive stance *to* activity, stepping outside of interaction in order to discuss what has been happening, rather than simply participating *in* activity. Learning to notice what otherwise goes unremarked is an essential part of holding intercultural dialogues.

### 4. Implicit Metacommunication

***Metacommunication can also be implicit, with tacit instructions given about how to interpret interaction***. The work of Tamar Katriel on the concept of *dugri* among Israelis, and her collaborative work Yousuf Greifat on the Arab concept of *musayra*, provides a good example of how metacommunicative vocabulary reveals hidden conflicts in assumptions and values. *Dugri* ("straight talk») describes a particular interactional style: direct, explicit and sincere, if simultaneously uncommonly blunt, although without anger or malice; it is a form highly valued by Israeli sabras (Jews born in Israel). *Dugri* places value on truth over politeness, implying that the speaker feels the need to say something that someone else may not wish

to hear, but which the speaker feels must be said (Katriel, 1986). *Musayra* is quite different, translated as "to go along,» implying the importance of politeness and accommodating the needs of others; this form of interaction is highly valued by many Arabs. Those who value *dugri* may see those who value *musayra* as lacking in integrity; those who value *musayra* may see those who value *dugri* as failing to show respect during interpersonal encounters (Griefat & Katriel, 1989). That members of these two groups often clash when holding conversations should come as no surprise since they share no basic assumptions about what constitutes participating in dialogue in good faith. Obviously multiple other factors influence dialogues between Israeli sabras and their Arab neighbors, and I certainly do not intend to imply otherwise, but this difference in assumptions regarding valued forms of interaction also merits attention. Cross-cultural research comparing assumptions even among groups that do not so directly interact reveals substantial differences where they may not be expected, such as in understanding the basic concept of dialogue (Carbaugh et al, 2011).

### 5. Metaphor Analysis

Understanding the often unspoken metaphors underlying intercultural contact is another way of analyzing metacommunication. Intercultural communication theorists have documented the changing metaphors underlying inter-group interactions, from the original *melting pot* (requiring assimilation of all groups to a mainstream standard), to the *salad bowl* or *mosaic* (appreciating multiculturalism, but expecting each group to remain largely distinct and separate from others), to the *tapestry* (where cultural strands are understood to exert mutual influence, sometimes called interculturalism) (see Leeds-Hurwitz, 2002, for elaboration on these cultural metaphors). I would argue that **the tapestry metaphor is the most useful in discussions of intercultural dialogue, given a focus on the ways in which members of different cultures are connected, interweaving separate threads to create a strong fabric.** The image of a tapestry comprised of separate threads clearly implies the "delicate interrelatedness» (Belenky, 1989, p. 178) and fragility of social relations (Goffman's "gossamer reality,» 1963, p. 247).

### Conclusion

These comments have been designed to provide a brief introduction to a few of the concepts and tools that Communication can offer to practitioners of intercultural dialogue.

Related research questions include:

- How is the concept of dialogue understood in different cultures?
- What different values related to speaking or interaction do different cultures emphasize?
- What vocabulary terms do different groups use to describe different types of interactions, including dialogue?
- What intercultural competencies are required for successful intercultural dialogue?
- How is it possible to teach these?
- At what points in interaction do different categories of identity (nationality, race, ethnicity, gender, age, class, social status) influence what occurs?
- How do people manage the display of multiple identities simultaneously?
- Under what conditions can any one of these identity categories be treated as irrelevant?
- What does it take to learn to view others as having identities just as complex as one's own?
- To what extent do joint collaborations in various activities (such as the pursuit of sport, art, or science) lead to increased understanding of other groups' assumptions, as opposed only to deep appreciation of the fact that differences exist?
- Is there an advantage to using one of these activities as the starting point for conversations?

Communication scholars conduct research into all of these topics, as well as many others, and this research should comprise one part of the international effort to analyze and promote intercultural dialogues.

In sum, this paper has presented two major ideas:

1. Practitioners have moved ahead of academics, so there is a need now to quickly synthesize existing research, expand into new topics, and then translate what the academics know, to provide the epistemological structure necessary to holding successful intercultural dialogues.
2. Among the disciplines, Communication researchers have already created tools and theoretical concepts, including identity construction, narrative analysis, metacommunication, and metaphor analysis, which should prove immediately useful in the effort to understand and analyze intercultural dialogues.

The vocabulary of many disciplines, and many cultures, will prove necessary to our understanding of intercultural dialogue in the future. A publication such as that produced by UNESCO (2013) on intercultural competences makes this case well, including discussion of how such concepts as the Japanese *uchi-soto* or the South African *ubuntu* expand our understanding. My goal here has been to introduce a few concepts taken for granted within Communication research in the USA that may be of value in beginning a serious attempt to examine intercultural dialogue, rather than only to name it as the goal.

## References


1. Belenky, M.F., Clinchy, B.M., Goldberger, N.R., & Tarule, J.M. (1986). *Women's way of knowing: The development of self, voice and mind*. New York: Basic Books.
2. Carbaugh, D., Nuciforo, E. V., Saito, M. & Shin, D. (2011). "Dialogue» in cross-cultural perspective: Japanese, Korean, and Russian discourses. *Journal of International and Intercultural Communication*, *4*(2), p. 87–108.
3. Council of Europe. (2008). White paper on intercultural dialogue: "Living together as equals in dignity.» Retrieved on March 17, 2009, from http://www.coe.int/t/dg4/intercultural/Source/Pub_White_Paper/White%20Paper_final_revised_EN.pdf
4. Fong, M., & Chuang, R. (Eds.). (2004). *Communicating ethnic and cultural identity*. Lanham, MD: Rowman & Littlefield.
5. Galanes, G., & Leeds-Hurwitz, W. (Eds.). (2009). *Socially constructing communication*. Cresskill, NJ: Hampton Press.
6. Goffman, E. (1963). *Behavior in public places: Notes on the social organization of gatherings*. New York: Free Press.
7. Griefat, Y., & Katriel, T. (1989) Life demands musayara, In S. Ting-Toomey & F. Korzenny (eds.), *Language, communication and culture: Current directions* (p. 121–138). Newberry Park, CA: Sage.
8. Hoover, J. D. (2011). Dialogue: Our past, our present, our future. *Journal of Intercultural Communication Research, 40(*3), p. 203–218.
9. Jung, E., & Hecht, M. L. (2004). Elaborating the communication theory of identity: Identity gaps and communication outcomes. *Communication Quarterly, 52*(3), p. 265–283.
10. Katriel, T. (1986). *Talking straight: Dugri speech in Israeli sabra culture.* Cambridge: Cambridge University Press.
11. Katriel, T. (1997). *Performing the past: A study of Israeli settlement museums*. Mahwah, NJ: Erlbaum.

12. Kuhn, T., & Nelson, N. (2002). Reengineering identity: A case study of multiplicity and duality in organizational identification. *Management Communication Quarterly, 16*(1), p. 5–38.
13. Leeds-Hurwitz, W. (1989). *Communication in everyday life: A social interpretation*. Norwood, NJ: Ablex.
14. Leeds-Hurwitz, W. (2002). *Wedding as text: Communicating cultural identities through ritual*. Hillsdale, NJ: Lawrence Erlbaum.
15. Leeds-Hurwitz, W. (Ed.). (2005). *From generation to generation: Maintaining cultural identity over time*. Cresskill, NJ: Hampton Press.
16. Mander, M. (Ed.). (1999). *Framing friction: Media and social conflict*. Champaign, IL: University of Illinois Press.
17. Pearce, W.B. (1989). *Communication and the human condition*. Carbondale, IL: Southern Illinois University Press.
18. Ruesch, J., & Bateson, G. (1951). *Communication: The social matrix of psychiatry*. New York: W. W. Norton.
19. Schely-Newman, E. (2002). *Our lives are but stories: Narratives of Tunisian-Israeli women*. Detroit, MI: Wayne State University Press.
20. UNESCO. (2013). *Intercultural competences: A conceptual and operational framework*. Available from http://unesdoc.unesco.org/images/0021/002197/219768e.pdf
21. Warren, C.A.B. (1988). *Gender issues in field research*. Newberry Park, CA: Sage.
22. Wilson, R. (2010). *World Forum information paper*. Retrieved on March 17, 2011 from http://www.bakuforum-icd.az/content.php?lang=en&page=8
23. Watzlawick, P., Beavin Bavelas, J., & Jackson, D. D. (1967). *Pragmatics of human communication*. New York: W. W. Norton.
24. Zelizar, B. (2000). *Remembering to forget: Holocaust memory through the camera's eye*. Chicago: University of Chicago Press.

**Любоў Уладыкоўская**
**(Мінск)**

# МІЖКУЛЬТУРНЫ ДЫЯЛОГ: СУЧАСНАЯ ПАРАДЫГМА І БЕЛАРУСКІ КАНТЭКСТ

Культурныя перспектывы сёння глыбока ўплецены ў глабальную палітыку.

Культурная свабода выступае жыццёва важнай часткай развіцця чалавека, бо здольнасць выбраць ідэнтычнасць, не губляючы павагі іншага ці да іншага, – істотная для паўнацэннага быцця.

Культура стала эканамічна ключавым словам: музыка, кіно, відэагульні, выяўленчае мастацтва сёння з'яўляюцца часткай паспяховай эканамічнай дзейнасці.

Культура больш не з'яўляецца паняццем, выключна звязаным з нацыянальнымі тэрытэрыямі ці этнічнымі групамі. Творчасці патрабуецца большая прастора для манеўраў, чым можа прапанаваць нацыянальная дзяржава. Мноства вялікіх мастакоў – не прадстаўнічыя для пануючай нацыянальнай культуры і часта не прызнаюцца у ёй, але цалкам іначай акцэптуюцца за яе межамі, у іншых сацыякультурных каардынатах.

Узровень інфармаванасці грамадства адносна культурных працэсаў у глабальным маштабе значна павысіўся. Дэбаты пра міжнацыянальныя спрэчкі, мультыкультуралізм і нацыянальную самасвядомасць выдзелілі культуры адно з цэнтральных месцаў у палітыцы.

Сярод самых актуальных і папулярных паняццяў сучаснага свету – як у тэорыі, так і на практыцы – можна вылучыць, безумоўна, міжкультурны дыялог.

Як дэмакратычная манера ўсялякага камунікавання і ўзаемадзеяння, дзе правы чалавека, а перадусім права на жыццё, роўнасць і свабоду, адыгрываюць галоўную ролю, міжкультурны дыялог з'яўляецца ўніверсальнай каштоўнасцю сучаснага свету. Маючы за мэту падтрымку і пашырэнне культурнай разнастайнасці, міжкультурны дыялог выступае стратэгічным напрамкам культурнай палітыкі

Еўрасаюза. Як атрыбутыўная характарыстыка беларускай сацыякультурнай традыцыі з уласцівымі ёй дэмакратычнымі каштоўнасцямі і полікультурнасцю, міжкультурны дыялог патрабуе практычнага ўвасаблення і развіцця ў сучаснай Беларусі – як на лакальным, нацыянальным, так і на міжнародным узроўнях.

Дакладная нявызначанасць і неадназначнасць разумення міжкультурнага дыялогу, з аднаго боку, адкрывае магчымасці для ўдакладненняў палітычнай стратэгіі ў сферы сацыякультурных трансфармацый, а таксама для навуковых пошукаў і аналітычных парадыгмаў; з іншага боку, яна часта прыводзіць да падмены паняццяў, калі міжкультурным дыялогам называюць міжкультурныя, транскультурныя, кроскультурныя камунікацыі, міжкультурную кампетэнтнасць, мультыкультуралізм, полікультурнасць, культурную інтэрферэнцыю і іншакультурныя ўплывы, практыку разнастайных міжнародных абменаў і кантактаў, а нават і міжнародныя адносіны ў цэлым.

Часткова гэта тлумачыцца тым, што міжкультурны дыялог набыў выключную актуальнасць не так даўно ў сувязі з сучаснай глабалізацыяй; апроч таго, даследаванні ў сферы міжкультурнага дыялогу вымагаюць добрага ведання і выкарыстання апошніх дасягненняў сусветнай сацыягуманітарнай навукі, міжнародных досведу, практыкі і актыўнага міжнароднага партнёрства, а таксама патрабуюць сістэмных, інтэрдысцыплінарных, комплексных падыходаў (і адпаведнай кампетэнтнасці), у тым ліку ў плане вызначэння метадалогіі правядзення вышэйзгаданых даследаванняў.

Сучасная сусветная парадыгма міжкультурнага дыялогу прадстаўлена шырокім спектрам разнастайных канцэпцый, навуковых школ і падыходаў, якія інтэнсіўна развіваюцца ў межах шматлікіх наваствораных арганізацый у многіх краінах свету: Цэнтр міжкультурнага дыялогу ў г. Анталья (Турцыя), Цэнтр міжкультурнага дыялогу ў г. Таронта (Канада), Цэнтр міжкультурнага дыялогу Арэгонскага ўніверсітэта (ЗША), Цэнтр міжкультурнага дыялогу ў г. Вашынгтон (ЗША), Цэнтр міжкультурнага дыялогу ў Македоніі, Цэнтр кроскультурных даследаванняў у г. Веленгтон (Новая Зеландыя), Аўстралійскі фонд глабальнага дыялогу, Інстытут міру і дыялогу ў г. Вена (Аўстрыя), Таварыства дыялогу ў г. Лондан (Вялікабрытанія), Міжнародны цэнтр міжкультурнага абмену ў г. Сіена (Італія), Нідэрландскі фонд міжкультурнага дыялогу, установа «Міжкультурны дыялог» (Мінск, Беларусь) і інш.

Феномен міжкультурнага дыялогу – паняцце не толькі дакладна не акрэсленае, але і выключна шматзначнае: пад міжкультурным дыялогам, які мае лакальнае, нацыянальнае, транспамежнае, міжнароднае і глабальнае вымярэнні, часцей за ўсё разумеюць канструктыўны дыялог нацыянальных культур і цэлых цывілізацый; міжэтнічныя, міжканфесійныя камунікацыі, а таксама ўзаемадзеянне субкультур ў межах адной сацыякультурнай прасторы; дыялог сацыяльны (паміж прадстаўнікамі розных прафесійных груп, школ, перакананняў, партый і т. п.), а нават і ўсялякі дыялог паміж дзвюма асобамі – носьбітамі розных светапоглядаў і культурных кодаў.

Верагодна, міжкультурным дыялогам можна назваць любы дыялог розных каштоўнасных сістэм.

Міжкультурны дыялог забяспечвае актыўны ўдзел у глабальным узаемадзеянні, без якога сёння цяжка ўявіць развіццё ў любой сацыяльнай сферы. Засваенне таго лепшага, што напрацавала чалавецтва, і ўклад уласных здабыткаў у сусветную скарбніцу ёсць першачарговай задачай кожнага народу, калі толькі ён не хоча стаць сусветным аўтсайдэрам, страціць суб'ектнасць і знікнуць з міжнароднай арэны, а потым – і з уласнай зямлі. Міжкультурны дыялог – гэта перадусім дыялог паміж культурамі, якія адлюстроўваюць светабачанне, светатварэнне, жыццёвыя каштоўнасці ўсялякай нацыі, якая выявіла сябе ў панараме жыццёвага гісторыка-культурнага разгортвання. Такі дыялог магчымы пры наяўнасці дастаткова моцных суб'ектаў яго вядзення: на нацыянальных мовах, з уласных зямель, пазіцый і інтарэсаў. Менавіта нацыянальная культура можа выступаць асноўным суб'ектам сучаснага дыялогу культур у міжнародным яго вымярэнні, да таго ж дыялог культур магчымы ў выпадку, з аднаго боку, адсутнасці супрацьстаяння, а з іншага, – вернасці ўласнай традыцыі і павагі да іншай. Такое разуменне міжкультурнага дыялогу, калі прызнаецца права на адрозненні і ў культурнай разнастайнасці бачыцца каштоўнасць, ляжыць у аснове многіх міжнародных актаў, у тым ліку шматлікіх дэкларацый ЮНЕСКА.

Відавочна, міжкультурны дыялог уключае ў сябе не толькі адпаведны тып узаемадзеяння культур, але дыялог розных груп людзей з уласцівымі ім поглядамі і перакананнямі, а таксама само права на існаванне адрознага, інакшага. Міжкультурны дыялог – гэта такі адкрыты і пачцівы абмен думкамі, які вядзе да глыбейшага разумення і ўспрымання іншых, а значыць, да мірнага, бесканфліктнага вырашэн-

ня самых розных пытанняў і праблем. Міжкультурны дыялог можа выступаць інструментам вырашэння або недапушчэння глабальных супярэчнасцей і непаразуменняў з улікам таго, што ён выяўляе сябе як надкультурны, універсальны феномен, які ўтрымлівае элементы, характэрныя для ўсіх народаў і культур, і палягае на прызнанні роўнай годнасці і роўных магчымасцей, роўнай каштоўнасці людзей, іх пазіцый, перакананняў, веравызнанняў, адкрытым мысленні – усім, што складае аснову чалавечай свабоды і дэмакратыі. Міжкультурны дыялог прадугледжвае гатоўнасць улічваць агульнае і адрознае, хаця б мінімальныя веды адзін пра аднаго, здольнасць знайсці агульную мову для разумення адрозненняў і павагі да іх.

Міжкультурны дыялог – фундаментальная мадэль дэмакратычнай камунікацыі, якая супрацьстаіць насіллю і вучыць жыць мірна і канструктыўна ў полікультурным свеце, служыць інструментам дасягнення кансенсусу і недапушчэння канфліктаў дзякуючы павазе да чалавечай асобы і любым праявам яе творчай ініцыятывы. Міжкультурны дыялог садзейнічае грамадскай салідарнасці, талеранцыі, ён не дапускае распаўсюджвання фанатызму, ізаляванасці, ксенафобіі.

Глабалізацыя, з аднаго боку, актывізавала ўвесь комплекс глабальных праблем – традыцыйных і сучасных, што стварае аснову для фарміравання новага мыслення чалавека, новага светапогляду і новых духоўных каштоўнасцей; з іншага боку, выклікала да жыцця сучасную ідэалогію планетарнага маштабу – глабалізм, які гэтыя каштоўнасці выяўляе.

Глабалізм як ідэалогія узнік у межах заходнееўрапейскай культурнай традыцыі ў канцы ХХ ст. Характэрнай яго рысай многія даследчыкі, галоўным чынам расійскія, лічаць разрыў з існуючай традыцыяй, што ў выніку прыводзіць да ўзнікнення ідэалогій антыглабалізму і альтэрглабалізму.

У кожным разе глабалізацыя пры ўсёй сваёй неадназначнасці можа разглядацца праз новыя магчымасці мыслення і развіцця чалавецтва, а ўніверсалізацыя духоўных каштоўнасцей – як пазітыўны фактар глабалізму. Канструктыўнасць глабалізму выяўляецца ў аб'яднанні чалавечых маральных і духоўных сіл, псіхічнай энергіі ў вышэйшых імкненнях чалавецтва, у неабходнасці выпрацоўкі новай канцэпцыі дыялогу розных сацыякультурных сістэм, у палілогу культурных каштоўнасцей; ва універсальных стандартах правоў чалавека і дэмакратычных асновах жыццядзейнасці; ва ўзнікненні такіх

з’яў сусветнай значнасці, як міжнародныя арганізацыі кшталту ААН, міжнацыянальныя творчыя карпарацыі, як Інтэрнэт, міжнародны турызм, полікультурная адукацыя і інш.

Глабалізм – гэта ідэалогія адзінства і ўзаемазалежнасці, агульнай спадчыны і агульнага лёсу чалавецтва. Глабалізм – перадумова для стварэння такіх агульначалавечых каштоўнасцей, як экалагічнае мысленне, добраахвотнае абмежаванне спажывання, прыярытэт якасных характарыстык чалавечага жыцця, узаемаўзбагачэнне культур, шырокае азнаямленне з культурнымі здабыткамі, культурная разнастайнасць. Невыпадкова ў адной з дэкларацый ЮНЕСКА – Усеагульнай Дэкларацыі «Аб культурнай разнастайнасці», прынятай 2 лістапада 2001 г. на 31-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ў Парыжы, у артыкуле 7 адзначаецца, што кожны від творчасці чэрпае свае сілы ў культурных традыцыях, але дасягае росквіту ў кантакце з іншымі культурамі.

Такім чынам, ва ўсіх сваіх трох асноўных значэннях міжкультурны дыялог грунтуецца на **дыялагічнасці мыслення**, якое суадносіцца з патэнцыялам разумення і разнастайнасці, з суб’ектнасцю, з прынцыпам адкрытасці, адказнасці – «захоўваючы, змяняць». Маналагічнасць жа мыслення ёсць праявай закрытасці свядомасці, што суадносіцца з аднастайнасцю і амбіцыямі, з адсутнасцю культуры дыялогу.

У сучаснай сацыякультурнай навуцы канцэпцыя Г.-Г. Гадамера [1], згодна з якой усялякі дыялог выяўляе адначасова ўніверсалізм і ўнікальнасць, арганічна дапаўняецца сцверджаннем М.М. Бахціна [2] пра суб’ектна-суб’ектныя адносіны ўзаемаразумення ў межах дыялогу, а таксама распрацоўкамі М.Бубера [3], паводле якога дыялог узмацняе стваральны, творчы пачатак у культуры.

Калі ў 1957 г. Бельгія, ФРГ, Францыя, Італія, Люксембург і Нідэрланды падпісвалі Дамову аб еўрапейскай эканамічнай супольнасці, заснаванай на пашырэнні агульнага рынку, культурнае пытанне ўжо паўставала на круглых сталах міжнароднай палітыкі (напрыклад, падчас канферэнцыі еўрапейскіх міністраў культуры, арганізаванай ЮНЕСКА ў 1972 г.), і з часам станавілася ўсё больш актуальным, асабліва ў плане важнасці нацыянальна-культурнай спецыфікі і еўрапейскай ідэнтычнасці для далейшай інтэграцыі на еўрапейскім узроўні.

У 1976 і 1979 гг. Еўрапейскі парламент прыняў дзве рэзалюцыі, якія запрашалі прадставіць афіцыйныя прапановы па развіцці

культуры; у 1982 г. была прынятая і ў 1983 г. падпісаная дэкларацыя міністраў культуры ЕС аб вывучэнні магчымасцей культурнага супрацоўніцтва. Еўрасаюзам быў прыняты шэраг і іншых дакументаў, у тым ліку датычных еўрапейскіх сталіц культуры (з 1985 г.). У 1987 г. у Еўрасаюзе была створана спецыяльная камісія па культурных праблемах, у 1991 г. – першая структура па фінансавай падтрымцы аўдыявізуальнай прамысловасці і г.д. Паўсталі шматлікія культурныя і абменныя праграмы (напрыклад, у 1995 г. – праграма «Erasmus» і інш.).

Асабліва актывізавалася культурнае пытанне ў пачатку новага тысячагоддзя, калі пачалі прымацца і дзейнічаць спецыяльныя культурныя праграмы, накіраваныя на заахвочванне культурнай разнастайнасці і міжкультурнага дыялогу, падтрымку культуры як каталізатара творчага патэнцыялу і стымулятара эканамічнага росту, жыццёвага элемента ў сістэме міжнародных адносін Еўрасаюза.

Сёння Еўрасупольнасць усё больш цікавіцца культурнымі справамі. Згодна з Еўрабарометрам 2007 г., 89% еўрапейцаў адчувалі павышаную запатрабаванасць культуры на ўзроўні Еўрасаюза, неабходнасць інтэнсіфікацыі культурных абменаў і, адпаведна, міжкультурнага дыялогу [4], хаця сама ідэя Еўропы Айчын пакідае культурную палітыку на разгляд дзяржаў-чальцоў: культурная палітыка павінна ўлічваць гісторыю і сацыяльныя асаблівасці рэгіёну, дзе яна рэалізуецца.

У межах сучаснай культурнай палітыкі Еўрасаюза міжкультурны дыялог разглядаецца як гарантыя і ўмова павелічэння эканамічнага, палітычнага, сацыяльнага, культурнага і творчага патэнцыялу Еўропы. Еўрапейская культурная палітыка засноўваецца на каштоўнасці паняцця і практыцы міжкультурнага дыялогу, які забяспечвае павагу да разнастайнасці і ўзаемаўзбагачэння нацыянальных культур, моў і традыцый, умацаванне еўрапейскай ідэнтычнасці, канструктыўнае і дэмакратычнае ўзаемадзеянне разнастайных сістэм каштоўнасцей (на прынцыпах адкрытасці, роўнай годнасці, камунікацыі, салідарнасці, узаемнай адказнасці), распаўсюджванне этыкі дыялогу і дыялагічнага мыслення ў цэлым, мірнае вырашэнне канфліктаў і супярэчнасцей (этнічных, лінгвістычных, культурных, рэлігійных і іншых) на лакальным і глабальным узроўнях, пашырэнне межаў і магчымасцей [5].

У Еўрасаюзе культурная палітыка афіцыйна з’яўляецца адным з напрамкаў яго дзейнасці пасля падпісання ў 1992 г. Маа-

стрыхцкай дамовы, у якой былі замацаваны палажэнні аб культурным супрацоўніцтве. Пазней шматлікія асобныя ініцыятывы былі аб'яднаныя ў адзіную комплексную праграму «Культура – 2000», якая прадугледжвае сумесную дзейнасць краін Еўрасаюза паводле наступных напрамкаў: захаванне еўрапейскай культурнай спадчыны, падтрымка нацыянальнага рынку культурных каштоўнасцей і індустрыі культуры, сацыяльная падтрымка працаўнікоў культурнай сферы, заахвочванне творчасці і ўдзелу ў культурным жыцці. Выступаючы супраць уніфікацыі і вертыкальнай іерархіі, Еўрасаюз засноўвае культурную палітыку на вядомых прынцыпах «Адзінства ў адрозненнях» і «Адзінства ў разнастайнасці». Такая няпростая структура ў цэлым звязаная са складанай самаідэнтыфікацыяй ЕС сярод паняццяў міждзяржаўнасці і наддзяржаўнасці.

Любая культурная палітыка павінна прадугледжваць гісторыю і сацыяльныя асаблівасці таго рэгіёну, дзе яна рэалізуецца, і галоўнае значэнне ў «Еўропе Айчын» маюць рашэнні нацыянальных дзяржаў (як і рашэнні штатаў у Злучаных Штатах Амерыкі, дзе нават адсутнічае пасада Міністра культуры). І ў Еўрасаюзе, і ў ЗША асаблівая ўвага ўдзяляецца рэгіянальнаму развіццю (на гэта робіць акцэнт і сістэма адукацыі) і мясцоваму самакіраванню [6].

2008 г. быў абвешчаны еўрапейскім Годам міжкультурнага дыялогу, што актывізавала навуковыя і публічныя дэбаты па пытанні сутнасці і перспектыў міжкультурнага дыялогу, працоўная дэфініцыя якога была сфармуляваная як працэс, што ўключае ў сябе адкрыты і пачцівы абмен або ўзаемадзеянне паміж людзьмі, групамі і арганізацыямі з розным культурным фонам або з рознымі светапоглядамі. Сярод мэтаў міжкультурнага дыялогу – развіццё і глыбейшае разуменне разнастайных перспектыў і метадаў; павелічэнне ўдзелу, а таксама свабоды і здольнасці да выбару; садзеянне роўнасці; актывізацыя творчых працэсаў у Еўропе, якая становіцца ўсё больш культурна разнастайнай.

Паняцце разнастайнасці не тоеснае паняццю адрозненняў. Разнастайнасць (на чым акцэнтуе асаблівую ўвагу ЮНЕСКА) звязаная пераважна з іміграцыяй, мультыкультуралізмам, рытуаламі, міфамі, народнай творчасцю, прыкладным мастацтвам. Арганізацыя ж соцыума, уключаючы яго палітычную структуру і правы чалавека, гендэрныя ролі, адукацыйную сістэму, рынак працы, ахову здароўя, складае план адрозненняў. Калі разнастайнасць адназначна ацэньваецца

як станоўчая з'ява, то адрозненні ўсё часцей называюцца галоўнай прычынай сацыяльных праблем і дэстабілізацыі, асабліва ў аспекце імігрантаў і іх нашчадкаў.

У адной са сваіх прац вядомы амерыканскі даследчык Фрэнсіс Фукуяма [7] звяртае ўвагу на тое, што пасля Другой сусветнай вайны еўрапейскія інстытуты прыклалі шмат намаганняў, каб аб'яднаць еўрапейскія краіны. Аднак гэтыя намаганні прадпрымаліся выключна з боку эліт і не атрымалі належнага рэзанансу сярод еўрапейскай грамадскасці. Вынікам міжкультурнага дыялогу, які фактычна быў накладзены зверху, стала не культурная сінхранізацыя, а дэстабілізацыя.У якасці альтэрнатывы прафесар Ф.Фукуяма прапануе двухэтапнае рашэнне.

На першым этапе, як лічыць даследчык, належыць прызнаць, што старая мадэль не была паспяховай, асабліва ў такіх краінах, як Нідэрланды ці Вялікабрытанія. Каб прадоўжыць ідэю культурнай разнастайнасці, неабходна і карысна аб'яднацца ў агульную ліберальную культуру, а ад мультыкультуралізму, заснаванага на прызнанні групы і правах групы, варта адмовіцца.

Другі этап вырашэння праблемы, згодна з меркаваннем Ф. Фукуямы, датычыць чакання і паводзін супольнасцей большасці ў Еўропе. Нацыянальная самасвядомасць працягвае разумецца, фарміравацца і выпрабоўвацца старымі спосабамі, якія становяцца бар'ерам для тых людзей, якія прыехалі нядаўна, маюць іншае этнічнае паходжанне і рэлігію. У гэтым выпадку ад карэнных еўрапейцаў патрабуецца адказнасць, кампраміс, талерантнасць і роўная да ўсіх павага.

Іншымі словамі, як даводзіць прафесар Ф.Фукуяма, мяжа паміж магчымай разнастайнасцю і недапушчальнымі адрозненнямі павінна быць акрэслена законам, а дапушчальны, прымальны мультыкультуралізм можа быць забяспечаны канструктыўным міжкультурным дыялогам.

Так ці інакш, відавочна, што еўрапейскія працэсы інтэграцыі і няспынныя плыні міграцыі з Усходу на Захад робяць пытанне мультыкультуралізму і міжкультурнага ўзаемадзеяння выключна актуальным у Еўропе і патрабуюць узважаных прававых рашэнняў.

Міжкультурны дыялог выключна важны і для Беларусі як часткі еўрапейскай хрысціянскай цывілізацыі – краіны, якая і паводле свайго геапалітычнага становішча, і з прычыны спецыфікі свайго гістарычнага лёсу, і з іншых прычын заўжды знаходзілася на перакрыжаванні роз-

ных культурных уплываў. Міжкультурны дыялог надзвычай актуальны для нас найперш у плане дасягнення гармоніі паміж захаваннем беларускай культурнай самабытнасці і адкрытасцю іншакультурным і іншаземным уплывам, а таксама фарміравання адкрытага мыслення як перадумовы адкрытага грамадства. Менавіта міжкультурны дыялог можа служыць асновай працэсаў салідарызацыі сучаснага беларускага грамадства, што патрабуе, аднак, апоры на фундаментальныя каштоўнасці беларускай нацыі, у першую чаргу на беларускую мову і беларускую нацыянальную культуру ў цэлым.

Пытанні міжкультурных камунікацый распрацоўвае шэраг структурных падраздзяленняў універсітэтаў Беларусі (навукова-даследчая лабараторыя міжкультурнай камунікацыі Дзяржаўнага інстытута менеджменту і сацыяльных тэхналогій Белдзяржуніверсітэта, факультэт міжкультурных камунікацый Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, кафедра лінгвістыкі і міжкультурнай камунікацыі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта, кафедра культуры мовы і міжкультурных камунікацый Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта, кафедра міжкультурнай камунікацыі Інстытута сучасных ведаў імя А.С. Шырокава), дзе міжкультурныя камунікацыі даследуюцца пераважна ў сферы літаратуразнаўча-лінгвістычнай, уласна-культуразнаўчай. Выключную ролю тут адыгрывае мастацкая літаратура: яна аперуе і паслугуецца сістэмамі нацыянальных каштоўнасцей (у тым ліку мовай), звернута да шырокага кола грамадства, праз пераклады твораў іншых літаратур узмацняе энергетычнае поле ўласнай нацыянальнай культуры і пашырае формы міжкультурнага ўзаемадзеяння.

Беларуская культурная традыцыя носіць дэмакратычны характар, гістарычна яна прадугледжае вяршэнства права, хрысціянскую павагу да асобы і годнасці чалавека, свабоду яго творчага выяўлення (варта ўзгадаць часы Вялікага княства Літоўскага). Менавіта таму міжкультурны дыялог іманентна ўласцівы беларускай нацыі, а не толькі з прычыны яе гістарычных полікультурнасці, поліэтнічнасці і поліканфесійнасці.

Так як Беларусь – краіна пераважна хрысціянская, з каштоўнасцямі і ідэаламі хрысціянскай дабрачыннасці, то фундаментальнай рысай светапогляду беларусаў выступае непрыманне вайны як сродку вырашэння канфліктаў, а асаблівую папулярнасць заўсёды мелі ідэі роўнасці і справядлівасці, спачуванне і разуменне патрэбаў іншага ча-

лавека. Беларуская ментальнасць – ліберальнага тыпу, яна гістарычна ўвабрала ў сябе давер да інакшага, адрознага, і ў гэтым яе еўрапейскасць (а не толькі ў геаграфічным плане) і накіраванасць на дыялог.

Такія вядомыя традыцыйныя рысы беларускага менталітэту і нацыянальнай культуры, як талерантнасць, міралюбства, гасціннасць, і адкрытасць, мяккасць і някідкасць, адсутнасць рэзкасці і катэгарычнасці формаў, пэўная кансерватыўнасць і адданасць традыцыям, цнатлівасць, паэтычнасць, задушэўнасць, высокая духоўнасць, філасафічнасць, глыбокая цікаўнасць, спакойны характар натуральна выяўляюць хрысціянскае светабачанне, што вынікае з гістарычна-геапалітычнай спецыфікі Беларусі, пра што паэтычна-вобразна пісалі беларускія культуролагі і публіцысты пачатку і першай паловы XX ст. Ігнат Абдзіраловіч, Уладзімір Самойла, Вацлаў Ластоўскі, Тамаш Грыб, Леў Гарошка і інш.

Калі браць пад увагу ўніверсальны, надкультурны характар міжкультурнага дыялогу, які грунтуецца на ўніверсальных, агульных для розных культур каштоўнасцях і ідэалах – як, напрыклад, ідэал свабоды, якім бы розным зместам ён не напаўняўся, то можна сцвярджаць, што міжкультурны дыялог у значнай ступені – ***феномен духоўны***. А духоўнасць выяўляецца не ў масе, натоўпе, якія часта рэгрэсіўныя, але праз асобу.

Свабода як магчымасць выбару, максімальнага раскрыцця чалавечых здольнасцей і творчай рэалізацыі асобы параджае імкненне да пазнання іншага, любоў да людзей і разнастайных праяў жыцця, гатоўнасць да канструктыўнага ўзаемадзеяння. Пераадольваць біялагічныя путы, недавер да чужога, узвышацца да разумення чалавечай агульнасці, еднасці можна дзякуючы развіццю менавіта духоўнага пачатку.

Беларусь знаходзіцца ў сферы ўплываў праваслаўнай і заходнееўрапейскай цывілізацый, і гэта з’яўляецца амбівалентнай крыніцай унутранага патэнцыялу беларускай культуры: з аднаго боку, беларуская культура на часавым і прасторавым цывілізацыйным узаемаўплыве выпрацавала высокую ступень устойлівасці і здольнасці да культурна-моўнай інтэрферэнцыі з захаваннем «культурнага ядра», якое на працягу некалькіх стагоддзяў служыла гарантам перыядычнага нацыянальна-культурнага адраджэння; з іншага ж боку, высокі ўзровень энтрапіі, якім характарызуецца полікультурнае і трансцывілізацыйнае грамадства, тэарэтычна павінен забяспечваць

развіццё сацыякультурнай супольнасці праз засваенне новых культурных форм і пераўтварэнне існуючых традыцыйных, што ў беларускім выпадку, аднак, тармазілася прыгнячэннем уласна-беларускай культурнай традыцыі, а ў некаторых выпадках – і традыцыйнай беларускай кансерватыўнасцю.

Тут мы назіраем хутчэй не дыялагізм, але пэўную расколатасць, раздвоенасць, як тое трапна выразіў беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі ў назве сваёй аповесці «Дзве душы» (1919).

Такая расколатасць, адсутнасць цэласнасці і на ўзроўні персанальным, і на ўзроўні сацыяльным, з аднаго боку, зніжае вагу і магчымасці суб'ектнасці і, такім чынам, прадуктыўнасць і паўнавартаснасць міжкультурнага дыялогу, з іншага ж боку, робіць міжкультурны дыялог асабліва неабходным.

Такім чынам, міжкультурны дыялог – гэта ўніверсальная каштоўнасць сучаснага свету, якая патрабуе міждысцыплінарнага навуковага вывучэння і далейшага практычнага ўвасаблення ў шырокім спектры сваіх разнастайных формаў.

Міжкультурны дыялог гістарычна і культурна ўласцівы беларускай нацыі, ён з'яўляецца формай грамадскага дыялогу і спосабам салідарызацыі сучаснага грамадства Беларусі на аснове дэмакратычных каштоўнасцей, а таксама ўмацавання нацыянальна-культурнай ідэнтычнасці шляхам уключэння ў беларускі культурны кантэкст шырокіх слаёў грамадства, а найперш моладзі.

Перадумовамі вядзення міжкультурнага дыялогу выступаюць суб'ектнасць, адкрытае мысленне і дэмакратычныя падыходы. Вынікам канструктыўнага міжкультурнага дыялогу таксама становяцца суб'ектнасць, адкрытае мысленне і дэмакратычныя падыходы– але ўжо на новым, вышэйшым узроўні.

## Літаратура


1. Гадамер, Г.-Г. Актуальность прекрасного / Г.-Г. Гадамер. – М. : Искусство, 1991. – 367 с.
2. Бахтин, М.М. Литературно-критические статьи / М.М. Бахтин. – М. : Худож. лит., 1986. – 543 с.
3. Бубер, М. Два образа веры / М. Бубер. – М. : Республика, 1995. – 464 с.
4. Intercultural Dialogue // Euro barometer: Robert Schuman Foundation [Electronic resource]. – 2007. – Mode of access: www.robert-schuman.eu. – Date of access: 03.03.2013.

5. Culture programme: a serious cultural investment / European Commission – Culture [Electronic resource]. – 2008. – Mode of access: http://europa.eu/pol/cult/index_en.htm. – Date of access: 07.08.2008.
6. Уладыкоўская, Л. Як захаваць культурную самабытнасць? / Л. Уладыкоўская. – Мінск, 2009. – 116 с.
7. Fukuyama, F. Blindside:  How to Anticipate Forcing Events and Wild Cards in Global Politics (Washington: Brookings Institution Press, 2007). Editor

Яўген Бабосаў
(Мінск)

# СУЧАСНАЯ ПАРАДЫГМА МІЖКУЛЬТУРНАГА ДЫЯЛОГУ

Сярод розных сацыяльных сістэм самай традыцыйнай і ў той жа час самай наватарскай з'яўляецца сістэма культуры. Гэтая своеасаблівасць абумоўлена менавіта спецыфікай культуры, якая, па вельмі дакладнай заўвазе выдатнага французскага пісьменніка, драматурга і філосафа Жана Поля Сартра, з'яўляецца крытычным люстэркам, створаным чалавекам для таго, каб, угледзеўшыся ў яго, убачыць свой твар. Узіраючыся ў гэта дзіўнае люстэрка, чалавек жадае заўсёды заставацца самім сабой, гэта значыць, несці ў сабе сваю ўласную традыцыю, але кожны раз ён жадае ў гэтым люстэрку ўбачыць і нешта новае - жэст, прычоску, адзенне, уважлівы ці кплівы погляд, сацыякультурнае ўздзеянне моды і музыкі.

Уважлівае ўзіранне ў люстэрка культуры, якое можа стаць і павелічальнай лінзай, і памяншальным шклом, непарыўна злучана з тым, што чалавек жыве і дзейнічае і як індывід, і як сацыяльная супольнасць (сямейная, прафесійная, тэрытарыяльная, этнічная і да т.п.), і як усё чалавечае грамадства (род людскі) не ў чыста натуральным, прыродай дадзеным навакольным асяроддзі, а ў асяроддзі, пераўтвораным чалавечай жа працай і культурай. Таму культура як спецыфічна чалавечая дзейнасць і як шматгранная сістэма духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў, нормаў, ідэалаў, узораў паводзін уключана ў шматгранны працэс структуравання і развіцця грамадства, фармавання і духоўнага ўзвышэння асобы.

Культура, перш за ўсё праз мову, сістэму каштоўнасцяў, нормаў, ідэалаў, значэнняў і знакаў задае чалавеку пэўны спосаб бачання і пазнавання свету, стварэння пэўных формаў жыццядзейнасці ў ім. Таму шматлікія адрозненні паміж краінамі, народамі, сацыяльнымі групамі, якія нярэдка кідаюцца ў вочы, зводзяцца галоўным чынам да істотнага разыходжання ў сістэме культурных значэнняў, якія ўвасабляюцца ў мове, што функцыянуе ў дадзенай краіне ці сацыяль-

**Цэнтральная роля каштоўнасцей у разуменні культуры**

Прапанаваны спадарыняй Schneider трохкутнік наглядна адлюстроўвае цэнтральную ролю каштоўнасцей у разуменні культуры ( і нацыянальнай ідэнтычнасці [Leeds 1999] як асноўнай культурнай ідэнтычнасці).

Geert Hofstede прапануе чатыры вымярэнні каштоўнасцей (даецца па [Schneider 1995: 28]) :

1. Дыстанцыя ўлады – да якой ступені прымальная ў грамадстве няроўнасць падзелу ўлады ва ўстановах і арганізацыях;
2. Прымальнасць няпэўнасці – ступень талерантнасці грамадства да няпэўнасці і неадназначнасці;
3. Індывідуалізм – ступень самадастатковасці асобы і яе эмацыянальнай незалежнасці ад сацыяльных груп, арганізацый і іншых калектываў;
4. Маскуліннасць – ступень, да якой «маскулінныя» або «ego» каштоўнасці: прымус, грошы і матэрыяльны бок, – пераважаюць у грамадстве ў параўнанні з «фемніннымі», сацыяльнымі каштоўнасцямі: натуральнасць, якасць жыцця і насельніцтва.

Даследаванне розніцы ў арыентацыі на каштоўнасці ў тэрмінах асобы (the self), сям'і (the family), грамадства (society), чалавечай натуры (human nature), прыроды (nature), звышнатуральнага (the supernatural) дазваляе па-новаму асвятліць праблему менеджмента міжкультурных адрозненняў [Oomkes 1995], лепш асэнсаваць прыроду саміх каштоўнасцей, сутнасці міжкультурнага дыялогу, прадугледзець і папярэдзіць «камунікатыўныя дэвіяцыі» розных тыпаў [Руда 2009].

**Поліэтнічнасць як культурная каштоўнасць**

Незалежна ад таго, што поліэтнічнасць пры адсутнасці этнічнай самаізаляцыі стварае ўмовы для асіміляцыі культур, яна павінна культывавацца ў сучасным грамадстве як адна з ключавых каштоўнасцей. Рэч у тым, што людзі ў поліэтнічным грамадстве (большасць краін у свеце поліэтнічныя, глабалізацыя стварае перадумовы для фарміравання поліэтнічных субкультур) пазбаўлены магчымасці параўнання разнастайнасці этнічных культур, неабходнай для пазнання любой культуры, у межах агульнай культуры. Трэба памятаць, што праблема міжкультурнага дыялогу ў межах шматэтнічнай супольнасці – гэта праблема дыялогу каштоўнасцей, у тым ліку ў тэрмінах іх чатырох вымярэнняў. Культурная ідэнтычнасць асобы мае два асноўных вымярэнні:

1. Захаваная (пазнаецца праз 4 вымярэнні, архетыпы паводзін і г. д.);
2. Усвядомленая (асаблівая важнасць эстымацыйных фактараў).

**Дыферэнцыяцыя ацэнак культур у залежнасці ад эстымацыйных фактараў**




Эстымацыйны фактар абумоўлівае выбар вертыкальнага / гарызантальнага тыпаў міжкультурнага дыялогу:

**Іншая культура**

непрывабная → вертыкальны тып дыялогу на карысць сваёй культуры
нейтральная → слаба вертыкальны тып дыялогу на карысць сваёй культуры
прывабная → гарызантальны ці вертыкальны тып дыялогу на карысць іншай культуры

**Культурная ідэнтычнасць у міжкультурным дыялогу**

«Полікультурнасць» асобы не выключае культурных канфліктаў і мае некалькі вымярэнняў: а) геапалітычна абумоўленае; б) палітычна абумоўленае; в) адміністратыўна абумоўленае; г) тэрытарыяльна-этнічна абумоўленае; д) сацыяментальна абумоўленае; е) індывідуальна абумоўленае.

Даследаванні міжкультурнага ўзаемадзеяння ў сумесных прадпрыемствах у розных краінах свету дазволілі высветліць, што прычыны міжкультурных канфліктаў належаць да ўзроўню канкрэтных асоб, якія, незалежна ад прафесійнай падрыхтоўкі і спецыяльнай падрыхтоўкі па міжкультурным узаемадзеянні, дэманструюць мадэлі паводзін, у тым ліку працоўных, засвоеныя імі ў працэсе першаснай сацыялізацыі. Гэта азначае, што няўлік культурнай ідэнтычнасці, спроба замясціць яе «карпаратыўнай (над)культурай» вядзе да зніжэння прадуктыўнасці працы і, адпаведна, прыбыткаў (гл., напрыклад, [Grotenhuis 2000; Hannemann 2000]), у той час як вывучэнне культурных адрозненняў з павагай да іх, улік культурнай ідэнтычнасці

спрыяюць паспяховасці міжкультурнага дыялогу і праз культурную сінергію дазваляюць дасягнуь значнага эфекту ў бізнесе [Zeutschel 1999; Dadfar et al. 1999; Prud'homme van Reine 1999].

## Літаратура


1. Руда, О. Комунікативні девіації в умовах українсько-російського білінгвізму / О. Руда. – Київ : Національна академія наук Україні, Інститут української мови, 2009. – 198 с.
2. Рычкова, Л.В. Моўныя стэрэатыпы як адлюстраванне сацыяльных працэсаў на памежжы / Л.В. Рычкова // Народы, культуры и социальные процессы на пограничье: материалы Междунар. науч.-практ. канф. (Гродно, 22–23 февр. 2010 г.) / ГрГУ им. Я.Купалы [и др.]; редкол.: Е.М.Бабосов (отв. ред.) [и др.]. – Гродно : ГрГУ, 2010. – С. 272–274. – Рэжым доступу : http://www.lib.grsu.by/library/data/resources/catalog/161648-346535.pdf
3. Рычкова, Л.В. Роля сацыяльных стэрэатыпаў у захаванні моўнай разнастайнасці ва ўмовах глабалізацыі / Л.В. Рычкова // Міжкультурны дыялог у Беларусі: нацыянальна-культурнае і духоўнае развіццё ва ўмовах глабалізацыі / па матэрыялах Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі 10–12 снежня 2003 г., Мінск. – Мінск : ЮНЭСКА, 2004. – С. 298–301.
4. Учиться жить вместе: получается ли это у нас? Синтез размышлений и предложений, вытекающих из 46-й Международной конференции образования под эгидой ЮНЕСКО. Женева, 5-8 сентября, 2001. – ЮНЕСКО: Международное Бюро Просвещения, 2003. – 120 с.
5. Berg, W. Cross-cultural Learning as a Process // Uniqueness in Unity: The Significance of Cultural Identity in European Cooperation. – SIETAR EUROPA 1995 Proceedings. – Prague, 1995. – P. 37–45.
6. Dadfar, H., Moberg, C., Turnvall, A. In Search of Cultural Synergy in Multicultural Organizations // Meeting the Intercultural Challenge: Effective Approaches in Research, Education, Training and Business. – Berlin: Verlag Wissenschaft & Praxis, 1999. – P. 175–190.
7. Grotenhuis, F.D.J. The Role of Culture in Strategic Alliances // HERITAGE and PROGRESS. From the past to the future in intercultural understanding. – SIETAR Europa Congress 1998 Proceedings. – Bath: LTS Training and Consulting (in association with SIETAR Europa), 2000.– P. 146–154.
8. Hannemann, K. Doing Business in Russia – intercultural challenge or predetermined failure? // HERITAGE and PROGRESS. From the past to the future in intercultural understanding. – SIETAR Europa Congress 1998 Proceedings. – Bath: LTS Training and Consulting (in association with SIETAR Europa), 2000. – P. 155–162.

9. Leeds, C. Stereotypes, national identities, values and Europeanness // Meeting the Intercultural Challenge: Effective Approaches in Research, Education, Training and Business. – Berlin: Verlag Wissenschaft & Praxis, 1999. – P. 444–452.
10. Oomkes, F.R. Managing Value Differences // Uniqueness in Unity: The Significance of Cultural Identity in European Cooperation. – SIETAR EUROPA 1995 Proceedings. – Prague, 1995. – P. 260–268.
11. Prud'homme van Reine, P.R. Globalisation and indigenous management models: the periphery talks back // Meeting the Intercultural Challenge: Effective Approaches in Research, Education, Training and Business. – Berlin: Verlag Wissenschaft & Praxis, 1999. – P. 252–262.
12. Schneider, S.C. Managing Across Cultures // Uniqueness in Unity: The Significance of Cultural Identity in European Cooperation. – SIETAR EUROPA 1995 Proceedings. – Prague, 1995. – P. 23–35.
13. Winkler, J. Problems of Identity in Systems of Higher Education // Uniqueness in Unity: The Significance of Cultural Identity in European Cooperation. – SIETAR EUROPA 1995 Proceedings. – Prague, 1995. – P. 185–192.
14. Zeutschel, U. Intercultural synergy in professional teams: Views based on practical experience // Meeting the Intercultural Challenge: Effective Approaches in Research, Education, Training and Business. – Berlin: Verlag Wissenschaft & Praxis, 1999. – P. 191–199.

**Марыя Путрова**
**(Полацк)**

# РЭГІЯНАЛЬНЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ ЯК ШЛЯХ ДА ЗАХАВАННЯ ІДЭНТЫЧНАСЦІ І МІЖКУЛЬТУРНАГА ДЫЯЛОГУ

Словазлучэнне «дыялог культур» усё часцей з’яўляецца на старонках выданняў самага рознага фармату, гучыць у тэлеперадачах і размовах у розных варунках. Умовай поспеху такога дыялогу ўсё часцей абіраецца не толькі агульная, інтэрнацыянальная мова, але і захаванне культурнай разнастайнасці.

Разуменне таго, што моц свету і чалавецтва – у разнастайнасці, а не ў аднолькавасці і падабенстве, апошнім часам укаранілася амаль паўсюдна. Вельмі вызначальнымі ў гэтым плане з’яўляюцца меркаванні тых, хто з нейкай прычыны меў досвед існавання ў іншых культурах і хто цяпер сцвярджае, што глабалізацыя на самай справе азначае згубу стolькіх каштоўных ведаў, столькі назапашанага досведу і шляхоў вырашэння няпростых праблем, што чалавек абавязкова атрымлівае не плюс, а адзін вялікі мінус, калі ён адкідвае разнастайнасць. Перш за ўсё таму, што любое глыбокае знаёмства з новай культурай патрабуе і вучыць талерантнасці. Яно вельмі дапамагае зразумець, што амаль няма нічога адназначна толькі дрэннага ці толькі добрага, што кожная культура – крыніца ведаў, якая пашырае і ўзбагачае светапогляд, уплывае на асабісты менталітэт, няхай і часам праз хваляванні і ўзрушэнні [1, с. 11].

Але ж разнастайнасць не заканчваецца падзелам свету на нацыянальныя культуры. Таму вышэйзгаданае словазлучэнне «дыялог культур» апошнім часам усё часцей ужываецца тады, калі гаворка ідзе не толькі пра нацыянальныя, але і пра рэгіянальныя культуры. Вынікі даследаванняў пераконваюць, што любая нацыянальная культура ў сваю чаргу існуе ў форме сваіх рэгіянальных, мясцовых варыянтаў, і калі гэтыя мясцовыя або рэгіянальныя варыянты не будуць шанавацца, вывучацца і паглыбляцца, то гэта адмоўна паўплывае на ўсю культуру народа.

Развіццё сучасных тэхналогій і сродкаў масавай камунікацыі прывяло да таго, што масавая культура робіцца ўсё больш разбуральнай. Яна можа прывесці да поўнага знішчэння культурнай ідэнтычнасці, асабліва калі ў заняпадзе будуць мясцовыя, рэгіянальныя культуры. Калі ж апошнія будуць вывучацца, узбагачацца, развівацца і дапаўняцца ведамі аб тым, што маецца ў іншых рэгіёнах як роднай краіны, так і ў культурах іншых краін, тады мы ўсе будзем у бяспецы ад маскультуры. Тады мы абаронім свой светапогляд, свой менталітэт, сваю ідэнтычнасць на карысць не толькі ўласнай культуры, а і культуры ўсяго свету, на карысць сапраўдный разнастайнасці. Менавіта таму цяпер асаблівую ўвагу трэба звяртаць на тое, як рэгіянальныя культуры падпарадкоўваюцца правілам глабальнай індустрыі і маскультуры. Патрэбны нейкі баланс паміж традыцыйным мінулым і глабальнай сучаснасцю, і гэты баланс будзе найбольш жыццястойкім і прадуктыўным на ўзроўні рэгіянальных культур.

Узаемадзеянне і супастаўляльнае вывучэнне апошніх бачыцца як найбольш дасканалы шлях у сферы навукі, адукацыі і жыццёвай практыкі. Гэта, аднак, не перакрэслівае паглыбленага вывучэння пэўнай рэгіянальнай культуры, а наадварот, робіць яго яшчэ больш актуальным.

Важна параўноўваць не толькі цалкам адрозныя рэгіянальныя культуры, але і блізкія. Гэта як у мовазнаўстве: градуальныя апазіцыі з'яўляюцца асновай бясконцага мора ўсё новых і новых адценняў сэнсу, без якіх агульны малюнак свету выглядае вельмі прымітыўным.

Безумоўна, мы не адмаўляем права на існаванне вядомаму напрамку лінгвістычных і культуралагічных даследаванняў, накіраваных на пошук інварыянтаў. Такі аналіз, як правіла, завецца структурным, і ён дастаткова карысны пры вывучэнні любога феномена, перш за ўсё моўнага, як гэта добра паказаў Ф. Сасюр, але толькі тады, калі мэта аналізу мовы ёсць прадстаўленне яе як *langue*, гэта значыць як банка дадзеных пра магчымасці, якія можна актуалізаваць ці ажыццявіць у рэальным маўленні (la parole). Антрапалагічны кампанент і гісторыя такога кампаненту, асабліва ў сацыяльным ці рэгіянальным планах, поўнасцю выключаны пры падыходзе, які ўспрымае мову выключна як закрытую сістэму. Такая сістэма бачыцца як аўтаномнае стварэнне, яе асаблівасці вынікаюць толькі з характару адносін, у якія ўступаюць паміж сабой, вызначаючы адзін аднаго, яе кампаненты [2, с. 121–9].

Такое бачанне, бязумоўна, з'яўляецца выдатным, сапраўды вызначальным дасягненнем тэарэтычнай думкі. Яно дазволіла засяродзіць увагу на пошуку інварыянтных, дыстынктыўных рысаў, без якіх немагчыма апісаць ніякую мову ці культуру. Але вельмі прыблізна, бо, як сцвярджаюць многія знакамітыя навукоўцы, як мова, так і культура маюць сваёй асновай жыццё, досвед чалавека. Яны, калі ўжываць тэхнічныя тэрміны, зазямляюцца ці замыкаюцца на жыцці [3, с. 27–33]. Як слушна заўважыў Ш. Баллі, у рэальных гаворках, у паўсядзённасці моўныя адзінкі заўсёды вельмі варыятыўныя [3, с. 27].

Нават жанры і тэматычныя блокі з'яўляюцца значна багацейшымі і больш разнастайнымі, чым гэта вынікае з прынятых у навуцы абагульняючых класіфікацый, што вымушае збіральнікаў запісаў аўтэнтычных наратываў выкарыстоўваць традыцыйныя для навукі класіфікацыйныя схемы толькі часткова. Такое адступленне ад прынятых структурацый на карысць рэальнага наратыву ў Полацкім этнаграфічным зборніку аказалася адметнай заваёвай аўтараў, бо нават на ўзроўні кампаноўкі раздзелаў, якія групіравалі запісы аўтэнтычнай народнай прозы, акрэсліваецца светапогляд беларусаў Падзвіння, іх рэгіянальная адметнасць. Гэтая адметнасць сама па сабе выступае «фільтрам» памяці і дапамагае захоўваць знакавую для суб'ектаў гэтага рэгіёна інфармацыю [4, с. 4–5]. Іншымі словамі, мясцовае, рэгіянальнае само па сабе з'яўляецца значным семантычным дыферэнцыялам.

Сказанае асабліва справядліва пра сітуацыю, якая склалася ў Беларусі, жыхары якой у значнай меры ўспрымаюць сябе акурат праз прызму рэгіянальнасці. Яны могуць лічыць сябе тутэйшымі, а мову, на якой размаўляюць у сям'і, у сваёй роднай хаце кваліфікаваць не як беларускую ці рускую, а як «нашую», «матчыну», «вясковую», «сваю», «свойскую», «сямейную», «тутэйшую». Усе гэтыя найменні, якія былі вылучаны з апытальных лістоў на Полаччыне падчас вывучэння моўнай сітуацыі ў рэгіёне [5, с. 173–79], па сутнасці адсылаюць не да агульнанацыянальнай беларускай ці рускай мовы, а менавіта да таго ці іншага больш-менш распаўсюджанага мясцовага варыянту.

Безумоўна, у выпадку, калі мы намагаемся акрэсліць агульнанацыянальныя рысы, усе гэтыя мясцовыя «тутэйшыя», «матчыны», «свойскія» могуць выклікаць адчуванне непатрэбнасці, якое толькі ўскладняе стварэнне агульнанацыянальнага малюнку мовы ці культуры. Але такое адчуванне памылковае.

На наш погляд, вельмі прадуктыўны падыход да інтэрпрэтацыі мясцовых варыянтаў моўнах паводзін дае нам вядомы прынцып дапаўняльнасці, які быў сфармуляваны Н. Борам для пераадольвання супярэчнасці розных поглядаў на адну і тую ж з’яву [6]. Так, у далёкім 1926 годзе ў фізіцы склаліся дзве сістэмы апісання: атамаматрычная і хвалявая механіка [7, с. 66]. Першая пераканаўча прадстаўляла электрон як часціцу, другая – як хвалю. Цікава, што абедзве тэорыі былі несумненна адэкватнымі і добра падтрыманымі эксперыментальнымі дадзенымі. Узнікала пытанне, як такое магло быць і што рабіць інтэпрэтатару, каб патлумачыць гэтую відавочную супярэчнасць? Рэвалюцыйны сэнс адказу Бора заключаўся у тым, што зусім не трэба выбіраць паміж уяўленнем аб электроне як часціцы або як хвалі. Гэтыя класічныя вобразы (часціцы і хвалі) не выводзяць і не выключаюць адзін аднаго, а дапаўняюць, і толькі разам яны могуць дастаткова поўна апісаць аб’ёмную рэальнасць свету. Паказальна, што Бор быў перакананы ў магчымасці выкарыстання сфармуляванага ім прынцыпа ў іншых галінах ведаў. У прыватнасці, калі Бор разважаў пра дапаўняльнасць культур, ён пераканаўча зазначыў, што ўсякай чалавечай культуры, замкнутай на сабе, уласціва нацыяналістычная самазадаволенасць. На розных прыкладах ён даводзіў неабходнасць прызнання дапаўняльнасці розных культур як вырашальнага фактару, які дазваляе ім усім разам у сваёй сукупнасці ствараць культуру чалавека.

Вельмі сімптаматычна, што з усіх сваіх шматлікіх заслуг перад чалавецтвам Н. Бор абраў менавіта прынцып дапаўняльнасці як галоўнае сваё дасягненне і нават адзначыў яго на сваім гербе. На намаляваным шчыце выразна абрысаванае кола, напалову светлае, напалову цёмнае, створанае аб’яднаннем ці нават зліццём дзвюх крывалінейных фігур, якія прадстаўляюць старажытны кітайскі сімвал інь-янь. Дэвіз па-над шчытом сцвярджаў на лацінскай мове «Несумяшчальнасць ёсць сутнасць дапаўняльнасці».

Прыведзены дэвіз, на наш погляд, прапаноўвае вельмі канструктыўную ідэю для інтэпрэтацыі фактаў рэгіянальных, мясцовых гаворак, у тым ліку народных наратываў. Ён дазваляе ажыццявіць па-сапраўднаму цэласны падыход да тлумачэння сутнасці мовы ўвогуле, нацыянальнай мовы ў прыватнасці і рэгіянальных рэпрэзентацый апошняй у тым ліку.

У сувязі з вышэйзгаданым мэтазгодным падаецца адкрыццё спецыялізацый па лінгварэгіёназнаўстве на лінгвістычных факуль-

тэтах універсітэтаў. Лінгварэгіёназнаўства на факультэтах замежных моў мае свае плюсы, бо паглыблена будзе вывучаная не толькі родная мова, але і замежная, рэгіянальныя асаблівасці якой усё часцей трапляюць у творы сучасных пісьменнікаў, сустракаюцца ў розных перадачах на тэлебачанні, радыё, у сеціве, кіно і непасрэдна ў маўленні прадстаўнікоў вывучаемых культур. Выпускнікі такіх факультэтаў былі б высокаадукаванымі спецыялістамі, яны змаглі б зрабіць адметны ўнёсак у вывучэнне, тлумачэнне і зберажэнне мясцовых гаворак і культур. Роля лінгварэгіёнаведа бачыцца як вельмі важная ў зборы запісаў мясцовых гаворак, іх тлумачэнні, у фіксацыі асаблівасцей рэгіянальнай моўнай карціны свету.

Апошняя, як вядома, ёсць цэласны вобраз свету, які вынікае з усёй актыўнасці моўнага суб'екта. Ён узнікае падчас усіх яго кантактаў і ўзаемадзеянняў з навакольным светам. Гэта і бытавыя кантакты, і вытворчая актыўнасць чалавека. У стварэнні карціны свету прымае ўдзел уся разнастайнасць псіхічнай дзейнасці моўнага суб'екта, яго адчуванні, успрыманні, уяўленні, мысленне. Гэта робіць вельмі праблематычным вылучэнне нейкага аднаго працэсу, вынікам якога было стварэнне той ці іншай рысы ў карціне свету. Людзі звычайна назіраюць за ўсім тым, што адбываецца вакол іх, інтэрпрэтуюць бачанае, асэнсоўваюць, пазнаюць і адлюстроўваюць яго. Вынікам усіх гэтых відаў дзейнасці з'яўляецца светапогляд, які стварае тып адносін чалавека да свету і прыроды, іншых людзей, будуе нормы паводзін, дыктуе адносіны да жыцця [8, с. 45].

Карціна свету рэпрэзентуецца ў мове чалавека, тых жэстах, міміцы, якімі ён карыстаецца ў сваіх камунікатыўных паводзінах, у мастацтве, рытуалах, этыкеце. Мова непасрэдна прымае ўдзел у стварэнні моўнай карціны свету. Перш за ўсё як *Zwischenwelt*, гэта значыць як свет, які знаходзіцца паміж чалавекам і навакольнай рэчаіснасцю і дапамагае асэнсаванню апошняй. Мова выступае таксама і як эфектыўны сродак эксплікацыі іншых карцін свету чалавека, якія з дапамогай лінгвістычных сродкаў, асабліва лексікі, уваходзяць у мову і надаюць ёй рысы чалавека, яго культуры.

Рэгіянальныя асаблівасці мовы заўсёды звязаны з інакшасцю ў бачанні рэалій свету, што добра адлюстроўвае фрагмент сапраўднай размовы паміж жыхаром Полаччыны і ўраджэнкай Гомельшчыны.

**Фрагмент 1.** $А_1$: Дык Вы што будзеце, чай ці гарбату?
$Б_1$: А?

$А_2$: Чай ці гарбату?
$Б_2$: Што?
$А_3$: Піць што будзеце, чай ці гарбату?
$Б_3$: Э-э, вой, як гэта?
$А_4$: Ды так, што можна чай, а можна і гарбату.
$Б_4$: Дык э-э-э… я думала, што чай гэта гарбата і ёсць.
$А_5$: Ну дык так, так. Але ж гарбата з траў, а чай… вось бачыце, цэйлонскага калібру тут напісана.
$Б_5$: А-а! А ў нас, дык усё гарбата.
$А_6$: Як гэта? Не! Хаця ў нас могуць усё чаем зваць, але ж калі гарбата, то тады з траў толькі.
$Б_6$: А-а!

(*Маўчанне*)

Дык жа цэйлонскі, як вы кажаце, таксама з раслін.
$А_7$: Так! З раслін, а гарбата з траў. Ці кветак. Можа з кветак быць, з лісцеў.
$Б_7$: Дыкжачкі цэйлонскі, я думала, таксама з лісцеў.
$А_8$: Ну-у не ведаю. Цэйлонскі – гэта чай, а вось як з мяты, то тады гарбата.
$Б_8$: А-а!
$А_9$: Так.
$Б_9$: Цікава. Ха-ха-ха!
$А_{10}$: Так.
$Б_{10}$: А гарбата Ваша з мяты?
$А_{11}$: З мяты.
$Б_{11}$: Ну тады гарбату. Піць буду.

Прыведзены фрагмент добра адлюстроўвае розніцу ў тым, як суразмоўцы называюць, падзяляюць і аб’ядноўваюць рэаліі свету. У досведзе аднаго моўны малюнак больш падрабязны (чай, гарбата), другі, наадварот, абагульняючы. Гэтыя адрозненні, у адпаведнасці з тэорыяй Н. Бора, не выключаюць адзін аднаго, а дапаўняюць веды суразмоўцаў пра Беларусь. Яны акрэсліваюць моўны суб’ект як частку асаблівай мясцовасці. Мэтазгодна звярнуць увагу на рэплікі $Б_6$ і $Б_7$ прыведзенага фрагменту размовы. У іх суразмоўца намагаецца

высветліць крытэрыі ідэнтыфікацыі чаю і гарбаты ў моўнай карціне партнёра. Ён відавочна не разумее, на якіх падставах у яго моўнай карціне свету замест адной рысы (гарбата) існуюць дзве (чай і гарбата). У яго ўсведамленні апошнія адносяцца да аднаго класа сутнасцяў. На наш погляд, сапраўдным крытэрыем ідэнтыфікацыі двух слоў і значэнняў ёсць карэляцыя значэння «чай» з нечым чужым, заморскім, а значэнне «гарбата» – са сваім, мясцовым.

Такія адрозненні, як правіла, адносна лёгка вызначаюцца і не вельмі замінаюць у размовах. Але ж сустракаюцца і больш складаныя сітуацыі, кожная з якіх заслугоўвае грунтоўнага вывучэння.

**Фрагмент 2.** Ну-у, Зінка-Зінулька, таячка мая даражэнькая…

Слова «таячка» ў прыведзеным фрагменце азначае «жанчынка», «кабецінка». Па нашых звестках, яно ўжываецца жыхарамі Полаччыны сталага ўзросту, прычым амаль выключна тымі, якія паходзяць з Пастаўшчыны. «Тая» як абазначэнне жанчыны не так лёгка ўспрымаецца аўтсайдарамі, часцей за ўсё яны спрабуюць інтэрпрэтаваць яго як нейкі дэманстратыў (указальны займеннік). Здаецца, адно толькі слова, але же яно акрэслівае пэўную спецыфіку ў бачанні свету жыхарамі адпаведнай мясцовасці і патрабуе ўвагі і досыць складаных даследаванняў, сапраўды грунтоўнага паглыблення ў культуру, прычым не толькі дадзенага рэгіёну. Калі прыняць за аксіёму дэфініцыю А. Круглова, што культура ёсць спосаб выжывання народа [9, с. 20], то давядзецца прызнаць, што для спасціжэння слова «тая (жанчына)» спатрэбіцца вывучэнне менавіта таго, як і чаму гэта назва дапамагала выжыць, і як і чаму яна амаль страцілася. І самае цікавае – гэта ўдакладніць, што яна азначае цяпер у мясцовых гаворках, бо, як гэта добра відаць з прыведзенага прыкладу, яна не поўнасцю адпавядае словам «жанчына», «кабета» ў беларускай мове, «женщина» ў рускай, «woman» у англійскай, «die Frau» у нямецкай, якія наўрад ці могуць быць частотнымі ў канструкцыі кшталту «таячка мая даражэнькая», ці «тая прыйшла».

Такое веданне ўзмацняе моўную асобу, дапамагае значна лепш зразумець сваю ідэнтычнасць і падрыхтавацца да міжкультурных зносін. Зусім невыпадкова даследчыкі розных напрамкаў гуманітарных ведаў сцвярджаюць, што для паспяховай дзейнасці цяпер трэба быць білінгвам, бо білінгвы больш здатныя ладзіць крэатыўны дыялог і пазбягаць канфрантацый. Сітуацыя ж у Беларусі патрабуе

быць мультылінгвам. Лінгвістычным факультэтам універсітэтаў варта было б падумаць не толькі пра лінгварэгіянальныя, але і супастаўляльныя лінгварэгіянальныя аддзяленні, якія б давалі сваім навучэнцам магчымасць глыбокага разумення моўнай карціны свету і рысаў дапаўняльнасці ў ім. На першы погляд такія факультэты будуць не вельмі выбітнай падзеяй, асабліва на фоне адкрыцця сучасных аддзяленняў, дзе рыхтуюць ядзерных фізікаў і г. д. Але ж амаль усе найбольш знакавыя падзеі, якія могуць стаць асновай новай эпохі, звычайна адбываюцца незаўважна і як бы самі сабой. Адкрыццё аддзяленняў ці факультэтаў лінгварэгіёназнаўства і супастаўляльнага рэгіёназнаўства было б якраз адной з такіх «ціхіх» навін, якія б, аднак паступова змянілі ўсю сістэму ідэнтычнасці ў краіне і нават у свеце.

## Літаратура


1. Плескачевская, И. Европа vs Азия // СБ. – 2013. – № 85. – С. 11.
2. Соссюр, Ф. Курс общей лингвистики / Ф. Соссюр. – М. : Наука, 2006. – 272 с.
3. Балли, Ш. Язык и жизнь / Ш. Балли. – М. : УРСС, 2003. – 230 с.
4. Лобач, У.А. Полацкі этнаграфічны зборнік / У.А. Лобач // Вып. 2. Народная проза беларусаў Падзвіння у 2 ч. Ч. 1. – Наваполацк : ПДУ, 2011. – 292 с.
5. Путрова, М.Д. К интерпретации языковой ситуации на Полотчине / М.Д. Путрова // Вестник Полоцкого госуниверситета. Гуманитарные науки. – Новополоцк : ПГУ, 2009. – № 7. – 21–26 с.
6. Бор, Н. Атомная физика и человеческие познания / Н. Бор. – М. : Изд-во иностр. литературы, 1961. – 151 с.
7. Петрановская, Л. Нильс Бор и квантовая революция / Л. Петрановская // Физика. Энциклопедия. – М. : Аванта, 2009. – С. 161–172.
8. Апресян, Ю.Д. Образ человека по данным языка: попытка системного описания / Ю.Д. Апресян // Вопросы языкознания. – 1995. – № 1. – С. 45–60.
9. Круглов, А. Афоризм / А. Круглов // АиФ в Беларуси. – 2013. – № 20. – С. 9.

**Любоў Варашуха**
**(Мінск)**

# МІЖКУЛЬТУРНЫ ДЫЯЛОГ ЯК ПЛАТФОРМА ЎСТОЙЛІВАГА РАЗВІЦЦЯ: БЕЛАРУСКА-ШВЕДСКІЯ ДАЧЫНЕННІ

У сучасным глабалізаваным свеце міжкультурны дыялог набывае асаблівае значэнне, бо выступае ў якасці чынніка, які спрыяе сацыяльнай інтэграцыі і ўмацаванню стабільнасці па ўсім свеце. Культуры заўсёды належала тая сіла, якая зближала народы, нацыі, рэлігійныя напрамкі, і таму менавіта культура можа служыць дзейсным сродкам дыялогу.

Глабалізацыя, найбольш значным чыннікам і прыкметай якой з’яўляецца імклівае распаўсюджванне сродкаў масавай камунікацыі, вельмі моцна ўплывае як на глабальную, так і на лакальную культуры. Гэтае ўздзеянне мае вельмі супярэчлівы характар. З аднаго боку, сучасныя сродкі масавай інфармацыі і, у першую чаргу, сеціва ствараюць амаль што неабмежаваныя магчымасці для дыялогу розных нацый. Вынікам гэтага феномену стала тое, што вялікая колькасць людзей, якія належаць да розных культур, атрымала магчымасць абменьвацца ідэямі і поглядамі, што дазваляе людзям пазнаёміцца з іншым светапоглядам, даведацца пра іншы лад жыцця і мыслення. З іншага боку, актуалізацыя міжкультурнага дыялогу ва ўмовах глабалізацыі можа мець і негатыўны эфект. Гэта праяўляецца ў тым, што сутыкненне розных культур, рэлігій, традыцый часта спараджае не адкрытасць, а адлучанасць, нават варожасць. Вельмі моцна і не заўсёды спрыяльна ўплывае глабалізацыя і на нацыянальныя культуры. Уздзеянне глабалізацыі на нацыянальныя культуры вельмі супярэчлівае і можа прымаць форму вестэрнізацыі, амерыканізацыі, лакалізацыі і інш. Але ў той жа час, як слушна заўважыў Энтані Гідэнс, глабалізацыя стымулюе «адраджэнне культурнай ідэнтычнасці ўва многіх частках свету» [1]. Трэба заўважыць, што культурная ідэнтычнасць у кантэксце міжкультурнага дыялогу набывае асаблівую актуальнасць. Як падаецца, міжкультурны дыялог можа адбыцца толькі паміж народамі

са здаровай ідэнтычнасцю, і тут можна спаслацца на філосафа-дыялагіста Марціна Бубера, паводле якога паўнавартасны дыялог магчымы толькі на падставе суб'ект-суб'ектных адносін [2].

У сучасных даследаваннях, прысвечаных праблеме міжкультурнага дыялогу, даволі цяжка знайсці нейкае адзінае азначэнне дадзенага феномену. Але ў той жа час у сацыяльна-культурным, філасофскім, культуралагічным, гісторыка-культурным і іншых аспектах міжкультурны дыялог асэнсоўваецца і канцэптуалізуецца як эфектыўны механізм змяншэння верагоднасці ўзнікнення рознага кшталту канфліктаў і небяспечных сітуацый, якія ўвесь час паўстаюць ў глабалізаваным свеце. Узаемадзеянне і інтэракцыя розных культур не толькі робяць магчымым узаемнае разуменне культуры іншай нацыі, суполкі, канфесіі, але ў той жа час ствараюць моцны падмурак для абмену ідэямі і досведам, а таксама для сацыяльных практык, скіраваных на вырашэнне сацыяльных супярэчнасцей. Спробы міжнароднай супольнасці знайсці выйсце з цэлага шэрагу глабальных праблем атрымалі сваё завяршэнне ў канцэпцыі ўстойлівага развіцця, якая ўяўляе сабою глабальную стратэгію развіцця чалавецтва. Паводле дадзенай канцэпцыі, пад устойлівым разумеецца такое развіццё, якое можа забяспечыць патрэбы не толькі сучасных пакаленняў, але і будучых. Але галоўны сэнс гэтага канцэпту ў тым, што забяспечыць устойлівае развіццё можна толькі сумеснымі намаганнямі. Менавіта таму выключна важную ролю ў працэсе забеспячэння ўстойлівага развіцця мусіць адыграць дыялог паміж рознымі культурамі. Можна сцвярджаць, што міжкультурны дыялог выступае сёння як камунікатыўная парадыгма ўстойлівага развіцця.

Каб прасачыць, якім чынам адбываецца рэалізацыя асноўных прынцыпаў устойлівага развіцця на аснове дыялогу дзвюх культур, у межах дадзенага артыкула прапаноўваецца засяродзіцца на міжкультурных адносінах паміж беларусамі і шведамі ў галіне экалагічнай праблематыкі. Гаворачы ўвогуле пра беларуска-шведскія стасункі, трэба адзначыць, што яны маюць тысячагадовую гісторыю. Існуе дапушчэнне, згодна з якім першы беларускі князь Рагвалод (альбо Рангвальд) быў шведам. Таксам вядома, што вікінгі вандравалі па Дзвіне і Дняпры ў Канстанцінопаль, і тагачасная Беларусь была для іх важным партнёрам. Апроч гэтага, на беларускай зямлі гісторыкі знаходзяць мноства сведчанняў таго, што шведы працяглы час жылі на нашай зямлі і, безумоўна, нашыя народы сустракаліся на полі бою. Адным сло-

вам, беларуска-шведскія дачыненні былі шматлікімі і разнастайнымі, пра што грунтоўна распавядае ў сваёй манаграфіі «Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў» гісторык Андрэй Катлярчук [3].

Сённяшнія кантакты паміж Беларуссю і Швецыяй зусім іншага кшталту – у большай ступені гэта сумесныя праекты ў культурнай, адукацыйнай і сацыяльнай сферах. Даволі цікавым фактам з’яўляецца тое, што, нягледзячы на адсутнасць непасрэднай мяжы паміж сучаснымі дзяржавамі Беларусь і Швецыя, наш народ у свядомасці не толькі навукоўцаў, але і звычайных шведаў успрымаецца як суседскі народ. Суседскае стаўленне шведскага грамадства з’явілася моцным імпульсам для ўсталявання дыялагічных адносін паміж двзюма культурамі.

Швецыя заслужана лічыцца лідэрам у сферы экалагічнай палітыкі, бо адной з першых распрацавала нацыянальную канцэпцыю ўстойлівага развіцця і пачала плённа рэалізоўваць яе як на нацыянальным, так і на лакальным узроўнях. Але лідэрства Швецыі ў экалагічнай палітыцы і экалагічна рацыянальным ладзе жыцця абумоўленае не толькі згаданымі вышэй абставінамі. Саміт ААН у Рыа-ды-Жанейра ў 1991 годзе перад усімі краінамі-ўдзельніцамі паставіў адзіную задачу: імплементаваць прынцыпы ўстойлівага развіцця ў сацыяльную практыку. Але і дагэтуль існуюць грамадствы, дзе ідэя ўстойлівага развіцця так і не зрабілася жывым працэсам, а замерла на ўзроўні дэкларацый. Поспех шведаў у справе практычнага забеспячэння экалагічнай устойлівасці можна патлумачыць тым, што экафільнае стаўленне да прыроднага асяроддзя глыбокімі каранямі сягае ў традыцыі гэтага народу. Так склалася, што традыцыі, якія спрыяюць захаванню і акамуляцыі каштоўнага экалагічнага досведу, знаходзяць сваё ўвасабленне ў каштоўнасных арыентацыях і адпаведных мадэлях практычных дзеянняў у дачыненні да прыроднага асяроддзя. Больш за тое, традыцыя не толькі забяспечвае апрабацыю гэткіх каштоўнасцей і паводзін, але і надае ім адмысловую значнасць, бо «экалагічныя веды, уяўленні, каштоўнасці і нормы, з якіх складаецца змест традыцыі, будуць характарызавацца большай устойлівасцю і аксіялагічнай вызначанасцю, чымсьці іншая экалагічна значная інфармацыя» [4, с. 208]. Тут трэба адзначыць, што ў сацыяльна-экалагічным дыскурсе канцэптуальны статус набывае паняцце «экалагічная традыцыя», якая вызначаецца як «інтэграваная сукупнасць экалагічных ведаў і ўяўленняў, каштоўнасцей, норм і стэрэатыпаў дзейнасці, якія ўтвараюцца ў пра-

цэсе гістарычнага развіцця тыпаў прыродакарыстання і ўсталявання сістэмы аховы навакольнага асяроддзя» [4, с. 208]. Адметнасць шведскай экалагічнай традыцыі абумоўленая доўгім перыядам сялянскай гісторыі гэтага народу, што ў сваю чаргу замацавала ў нацыянальным светапоглядзе асноўныя экалагічныя каштоўнасці шведаў. Сярод апошніх варта адзначыць адсутнасць спажывецкага стаўлення да прыроды, гонар за хараство роднай прыроды і ўдзячнасць за плады зямлі і мора, а таксама ідэал сціплага ладу жыцця, які ўсталяваўся пад уплывам пратэстантызму. Вядома, Швецыя, як частка заходняй цывілізацыі, таксама прайшла праз індустрыяльную фазу яе развіцця і спазнала на сабе ўсе выгоды і заганы капіталістычнай фармацыі. Але экафільныя каштоўнасці глыбока ўкараніліся ў свядомасці нацыі, і ў другой палове ХХ ст. на хвалі прыродаахоўнага руху ў заходняй культуры атрымалі моцную актуалізацыю.

Згодна са шведскім бачаннем, на сучасным этапе развіцця цывілізацыі складнікамі ўстойлівага развіцця з’яўляюцца біялагічная разнастайнасць, альтэрнатыўная энэргетыка, экалагічна рацыянальнае кіраванне рэсурсамі, экалагічнае спажыванне, экалагічна рацыянальны рост, здаровая ідэнтычнасць, сацыяльна роўнасць і інтэграцыя. Можна адзначыць, што пералічаныя прынцыпы, хоць і гучаць вельмі сучасна і актуальна, ні ў якім разе не з’яўляюцца нечым абсалютна новым, бо былі выпрацаваныя ў адпаведнасці з тымі экалагічнымі традыцыямі, якія складваліся цягам стагоддзяў і часта ўяўляюць сабой звыклыя сацыяльныя практыкі. Шведы не толькі дасягнулі значных поспехаў у справе экалагічнай устойлівасці, але актыўна выказваюць гатоўнасць падзяліцца сваім досведам з іншымі народамі, у прыватнасці, з беларусамі. За апошнія 15 гадоў у Беларусі рэалізаваны цэлы шэраг экалагічных праектаў і ініцыятыў пры моцнай падтрымцы шведскай дзяржавы і грамадства. Так, у 1997–2002 гадах была праведзеная ачыстка басейнаў Дзвіны-Даўгавы і Нёмана паводле ініцыятывы Шведскага агенцтва па навакольным асяроддзі; шведская партыя Зялёных разам з беларускай арганізацыяй «Экалайн» зрабілі шэраг захадаў у справе мінімізацыі наступстваў чарнобыльскай катастрофы; пры падтрымцы шведскіх партнёраў была распрацаваная мясцовая стратэгія ўстойлівага развіцця Дзісненскага краю; у Беларусі дзейнічае адукацыйнай праграма Балтыйскага Універсітэту, дзе выкладаюцца і даследуюцца розныя аспекты ўстойлівага развіцця. Гэта далёка не поўны спіс беларуска-шведскіх стасункаў у экалагічнай сферы.

Натуральна, рэалізацыя сумесных праектаў у любой сферы, у тым ліку экалагічнай, патрабуе не толькі адмысловых кампетэнцый, але і звычайнага паразумення паміж бакамі дыялогу. Міжкультурны дыялог ані ў якім разе не вымагае аднолькавасці альбо падпарадкавання таго ці іншага кшталту. Дыялагічныя адносіны мусяць грунтавацца на вызнанні рознасці, самабытнасці Іншага – іншага чалавека, рэлігіі, каштоўнасцей і культуры, але ў той жа час важнай умовай ажыццяўлення дыялогу з’яўляецца здольнасць да эмпатыйнага адчування Іншага, што ў кантэксце міжкультурнага дыялогу азначае жывую цікаўнасць да іншай культуры, павагу да чужых традыцый, але таксама і наяўнасць сталай асабістай ідэнтычнасці, якая, у сваю чаргу, немагчымая без адпаведнай традыцыі і ўкаранёнай у ёй сістэме каштоўнасцей.

Безумоўна, міжкультурны дыялог Беларусі і Швецыі можа выступаць ў якасці платформы для супрацоўніцтва ў напрамку экалагічна ўстойлівага развіцця. Аднак неабходна адзначыць некалькі спецыфічных рысаў, якімі адзначаюцца беларуска-шведскія дачыненні. Адной з першых адметнасцей з’яўляецца тое, што суб’ектамі гэтых кантактаў у большыні выпадкаў выступаюць не Швецыя і Беларусь, г. зн. дзяржавы, а Швецыя і беларусы як грамадская супольнасць. Другая рыса – гэта тое, што ініцыятыва звычайна зыходзіць ад Швецыі, якая, нягледзячы на наш розны гістарычны, палітычны, эканамічны досвед, бачыць у нас сваіх суседзяў, з якімі ў шведаў шмат агульнага ў культуры і нават ментальнасці. Беларусы, на жаль, не выказваюць асаблівай ініцыятыўнасці і актыўнасці, што можна было б патлумачыць аб’ектыўнымі прычынамі культурна-гістарычнага, палітычнага кшталту. Але таксама можна назваць і суб’ектыўныя прычыны, сярод якіх грамадзянская абыякавасць, адсутнасць альтруістычных памкненняў, спажывецкая свядомасць. Апроч пералічанага вышэй, трэба адзначыць даволі нізкі ўзровень экалагічнай адукаванасці ці ўвогуле яе адсутнасць у большай частцы насельніцтва Беларусі.

Калі звярнуцца да шведскага досведу ў справе імплементацыі прынцыпаў устойлівага развіцця ў масавую свядомасць і сацыяльную практыку, то можна заўважыць, што рух Швецыі да экалагічна ўстойлівай будучыні пачынаўся з адукацыі і асветы. Не варта думаць, што сусветным лідарам па ўстойлівым развіцці шведы сталі дзякуючы свайму традыцыйна экалагічнаму светапогляду. Скарыстаўшыся з яго як з прыдатнай глебы, шведы распрацавалі цэлы шэраг адукацыйна-

экалагічных праграм і ўкаранілі іх на ўсіх узроўнях адукацыі – ад дашкольнай да вышэйшай. Масавая трансляцыя экалагічных ведаў забяспечваецца таксама праз праграму «Адукацыя праз усё жыццё» (lifelong learning) [5]. Што тычыцца Беларусі, то дасканалыя веды па экалогіі, а таксама дакладную інфармацыю пра экалагічны крызіс і яго прычыны могуць атрымаць у большасці выпадкаў толькі студэнты ВНУ, якія навучаюцца на адпаведных спецыяльнасцях.

Закранаючы праблему экалагічнай традыцыі беларусаў, трэба адзначыць, што ў прынцыпе нашаму народу ўласцівыя экафільныя каштоўнасці, можа, нават не ў меншай ступені, чым шведам. Праблема іх актуалізацыі сягае ў большай ступені ў сферу эканамічнага і сацыяльна-палітычнага жыцця. Відавочна, што эканамічнае становішча краіны, а таксама не надта высокія паказчыкі ўзроўню і якасці жыцця большай часткі беларусаў спрыяюць актуалізацыі ідэалаў спажывецтва, што, у сваю чаргу, не карэлюе з экалагічнымі імператывамі. Моцнае ўздзеянне на фармаванне неэкалагічнай культуры спажывання аказваюць рэклама і сродкі масавай інфармацыі [6, с. 88]. Але супрацьстаяць спакусам рэкламы можна пры дапамозе крытычнага мыслення, якое, як вядома, здабываецца толькі праз якасную адукацыю. Такім чынам, адукацыя і асвета адыгрываюць першасную ролю ў працэсе фарміравання і выхавання экалагічных каштоўнасных арыентацый людзей, а таксама стымулюе іх актуалізацыю ў культуры.

Сучасная цывілізацыя развіваецца ва ўмовах глабальнай нестабільнасці, якая абумоўленая існаваннем небяспекі і рызыкі ва ўсіх яе праявах. Хоць вядома, што глабальныя праблемы носяць прынцыпова сістэмны характар, усё ж экалагічная праблема стварае пэўны кантэкст для ўсіх астатніх. Ад таго, якія намаганні будуць зробленыя кожнай нацыяй, залежыць будучыня ўсёй глабальнай супольнасці. Дыялог культур выступае сёння ў якасці дзейснага сродку камунікацыі на шляху нацый да ўстойлівага развіцця. Для міжкультурных кантактаў Беларусі і Швецыі ў галіне экалогіі аб’ектыўна існуе моцны падмурак, які складаецца з агульнай гісторыі, адносна падобных кліматычных умоў, пэўных асаблівасцей менталітэту абодвух народаў. Але што датычыць суб’ектыўных чыннікаў, то тут бракуе волі і актыўных намаганняў з боку беларусаў. Гэткія абставіны не спрыяюць шчыраму, заснаванаму на суб’ект-суб’ектным стаўленні, дыялогу і замаруджваюць рух Беларусі да ўстойлівага развіцця.

## Літаратура


1. Гидденс, Э. Ускользающий мир [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : http://www.belintellectuals.eu. – Дата доступу : 12.05.2013.
2. Бубер, М. Диалог. Два образа веры / М. Бубер. – М., 1999. – С. 122–161.
3. Катлярчук, А. Швэды ў гісторыі й культуры беларусаў / А. Катлярчук. – Вільня, 2007.
4. Устойчивое развитие и социально-экологические параметры качества жизни / А.И. Зеленков [и др.]; под ред. А.И. Зеленкова. – Минск, 2011.
5. Learning for a sustainable future. Innovative solutions from the Baltic Sea region / edit. Rohveder L., Virtanen A. – Uppsala, 2008.
6. Титаренко, Л.Г. Глобальные факторы риска и их влияние на динамику экологических ценностей населения Беларуси // Социология. – 2011. – № 2. – С. 85–91.

**Юрый Стулаў**
**(Мінск)**

# БЕЛАРУСКІ ЭПІЗОД З ЖЫЦЦЯ А.С. ПУШКІНА ВАЧЫМА АФРААМЕРЫКАНСКАГА ПІСЬМЕННІКА

Славуты рускі паэт А.С. Пушкін казаў пра беларусаў: «Народ, нам издревле родной». Некалькі разоў ён быў праездам у Беларусі, а ягонае кароткае знаходжанне ў Магілёве знайшло сваё адлюстраванне ва ўспамінах Аляксандра Распопава, афіцэра Лубенскага гусарскага палка, які быў раскватараваны ў старажытным беларускім горадзе. Пляменнік Е.А. Энгельгардта, дырэктара Царскасельскага ліцэя, дзе вучыўся паэт, апісвае энтузіязм, з якім маладыя афіцэры сустрэлі свайго куміра. Паводле ягоных слоў, «у захапленні, што паміж намі вялікі паэт Пушкін, мы ўзялі яго на рукі і аднеслі паблізу, на маю кватэру (я жыў разам с карнетам Куцынскім). Пушкін быў у захапленні ад нашага энтузіязму, мы падымалі на рукі дарагога госця, пілі за яго здароўе, у гонар і славу ўсяго, што ім створана. Пушкін быў у самым вясёлым і пагодлівым настроі» [1][1]. Пазней навукоўцы Беларусі і Расіі неаднойчы выкарыстоўвалі нататкі Распопава ў даследаваннях сувязей паэта з беларускай зямлёй.

Відавочна, гэтыя ж матэрыялы зацікавілі і вядомага афраамерыканскаго пісьменніка Джона Олівера Кіленза, калі ён пачаў працаваць над сцэнарыем біяграфічнага фільма пра Пушкіна, ролю якога вельмі жадаў сыграць знакаміты чорны акцёр Гары Белафонтэ. Яшчэ ў 1978 г. канадскі пісьменнік венгерскага паходжання Джордж Джонас, у будучым адзін са сцэнарыстаў фільма С. Спілберга «Мюнхен», напісаў п'есу «Пушкін», разлічваючы на артыста. Але п'еса, пастаўленая іншым эмігрантам – палякам Марыонам Андрэ (Чарнецкім) ў таронцкім «Тэатры плюс», не прыцягнула ані ўвагі Белафонтэ, ані публікі. Акцёр прапанаваў Кілензу напісаць свой сцэнарый, тым

[1] Усе пераклады – Ю.С.

больш што абодва імкнуліся развянчаць расісцкі міф пра другараднасць чорных амерыканцаў. Кіленз настойваў, што «калектыўны афраамерыканскі літаратурны праект павінен праслаўляць афраамерыканскі народ і садзейнічаць супраціўленню прыгнечанасці, і што гэтае мастацкае выказванне павінна быць напісана на афраамерыканскай мове» [2, с. 239]. Практычна такі ж намер быў і ў Белафонтэ. Ён «планаваў рабіць фільмы, якія паказвалі б чорных з такімі самымі надзеямі, праблемамі, каханнем, як і ў іншых людзей. …Ён планаваў, каб ягоныя чорныя былі тымі людзьмі, якія зрабілі ўнёсак у развіццё навукі, кіравання і мастацтва» [3, с. 161]. На жаль, праект не ажыццявіўся, але дзесяць гадоў жыцця, якія Кіленз правёў, вывучаючы лёс вялікага рускага паэта і яго літаратурную спадчыну, далі свой плён. Так з'явіўся раман «Вялікі чорны рускі», надрукаваны ўжо пасля смерці пісьменніка ў 1989 г. намаганнямі яго жонкі і зяця.

Імя Пушкіна добра вядома чорным амерыканцам. Яно ўвасабляе для іх мастацкі талент, крэатыўнасць і прагу да вольнасці. Ужо ў сярэдзіне XIX стагоддзя творы паэта прыцягваюць увагу абаліцыяністаў і негрыцянскіх інтэлектуалаў, а ў першай чвэрці XX стагоддзя Пушкін зрабіўся сімвалам негрыцянскага інтэлекта, «у той час як яго працы і біяграфія паступова станавіліся часткай афраамерыканскага літаратурнага дыскурсу» [4, с. 248]. У творчасці Л. Хьюза, К. Калена сустракаюцца разнастайныя спасылкі на паэта і яго творы, адчуваецца моцнае ўздзеянне яго ідэй на фарміраванне новага пакалення чорных пісьменнікаў ЗША, што знайшло сваё адлюстраванне ў іх разуменні найважнейшага паняцця для афраамерыканцаў – ідэнтыфікацыі. Для Калена рускі паэт быў «негрыцянскім продкам» у літаратуры.

Зразумела, чаму Кіленза прывабіла асоба Пушкіна. Згодна з яго разуменнем місіі мастака, гэта быў палітычна ангажаваны раман, у цэнтры якога ляжыць праблема самаідэнтыфікацыі паэта. Для чалавека іншай культуры праца над біяграфіяй рускага генія вымагала глыбокага аналізу фактаў яго жыцця і творчасці, руплівага знаёмства з дакументамі, паездак у мясціны, звязаныя з акалічнасцямі яго дзейнасці. Кіленз прыязджае ў Савецкі Саюз, прымае ўдзел у пушкінскіх урачыстасцях у Маскве, Ленінградзе, Пскове і Міхайлаўскім, вывучае даследаванні творчасці паэта, аналізуе пераклады твораў Пушкіна на англійскую мову. Раман набыў форму біяграфічнага рамана, дзе галоўным для пісьменніка, які працуе ў

гэтым жанры, з'яўляецца, на думку Г.В. Казанцавай, «мадэль жыцця гістарычный асобы, дзеля ўвасаблення якой найбольш важнай ёсць гісторыя не знешняга, а ўнутранага (духоўнага) жыцця» [5]. У такім рамане спалучаюцца рэальныя падзеі і вымысел, які, аднак, успрымаецца як верагодны, бо абапіраецца на факт і дапамагае стварыць мастацкі вобраз гістарычнага персанажа.

Беларусі прысвечана шостая частка кнігі, дзе гутарка ідзе пра знаходжанне Пушкіна ў Магілеве. Аналіз тэкста рамана паказвае, што Кіленз быў знаёмы з успамінамі Распопава, што знаходзіць пацверджанне ў дэталях апісання гэтага эпізода, хаця і не заўсёды дакладных. Напрыклад, Распопаў называе сябе Аляксандрам Энгельгардтам (гэта прозвішча яго дзядзькі), князь Абаленскі становіцца Абелінскім, а Магілёў апынуўся «сярод бясконцага зялёнага стэпу» [6, с. 204]. Але ў асноўным пісьменнік прытрымліваецца фактаў, удзяляе ўвагу маршруту паэта, які пасля паўднёвай ссылкі быў вымушаны ехаць пад нагляд паліцыі ў свой родавы маёнтак у Міхайлаўскім. Так ён апынуўся ў беларускім горадзе, дзе мусіў спыніцца на начлег.

Згодна з успамінамі Распопава, ён быў першым чалавекам, які пазнаў Пушкіна і паклікаў калег сустрэцца з паэтам. Падчас гэтай сустрэчы Аляксандр Сяргеевіч, узрушаны захапленнем маладых людзей, якія нават хацелі выкупаць яго ў ванне з шампанскім, прачытаў ім свой верш «Вясёлы пір», але ад ванны адмовіўся, згадаўшы пра яе падчас другой сустрэчы з Распопавым у Міхайлаўскім у 1825 г. [1]. Тут Кіленз практычна паўтарае сцэну, апісаную маладым гусарам, але змяняе акцэнты. Для Рапопава найважнейшым было перадаць абаяльнасць паэта, сілу ўздзеяння яго твораў на маладое пакаленне, для якога ён быў песняром вольнасці. Кіленз імкнецца зрабіць Пушкіна рэвалюцыянерам, які заклікае да звяржэння самаўладства. Гэта адпавядае яго разуменню місіі мастака. Трэба ўлічваць, что пісьменнік належаў да радыкальнай групы афраамерыканскіх дзеячоў культуры, якія адстойвалі прынцыпы «чорнай эстэтыкі». Яны лічылі, што мастацтва чорных амерыканцаў павінна кіравацца ідэяй «Чорнае – гэта прыгожа» і служыць палітычным мэтам барацьбы з расавай дыскрымінацыяй. Паэзія Пушкіна караніцца ў народнай культуры, і піша ён на роднай мове, а не па-французску – мове рускай арыстакратыі, што для Кіленза вельмі паказальна. Таму вобраз Пушкіна ў чорнага пісьменніка нават ў сцэне ў Магілёве адрозніваецца ад традыцыйнага ўяўлення аб паэце, якое склалася ў літаратурнай гісторыі. Ён падкрэслівае рэвалюцыйны

імпэт і радыкалізм генія пры дапамозе ўмела падабраных вершаў. Дух Пушкіна вольны і не ведае межаў, і таму яго паэзія аднолькава дарагая і маладому афіцэру, і студэнту, і юнай дзяўчыне, і простаму селяніну.

Малюючы сцэну спаткання паэта з Распопавым, Кіленз прыводзіць дэталі, ужо вядомыя з успамінаў. У перакладзе ён нават выкарыстоўвае словы, якія прысутнічаюць у тэксце Распопава, адзначаныя курсівам:

| Распопаў | Кіленз |
|---|---|
| – *Вы,* Александр Сергеевич*, верно, меня не узнаете? Я – племянник* бывшего *директора Лицея* – Егора Антоновича *Энгельгардта*; по праздникам *меня брали из корпуса в Царское Село, где вы с Дельвигом заставляли меня декламировать стихи.* | “*You don’t remember me,* sir, but I remember you» The cadet said. “*You are Alexander Sergeievich Pushkin. I am Alexander Engelhard, the headmaster’s nephew. I used to come over to Tsarskoye Selo and you and Delvig* and Pushchin *used to make me recite poetry*.» |
| *Пушкин, обнимая меня, сказал:* <br>*— Помню, помню, Саша, ты* проворный *был кадет*. | *Pushkin embraced the young man and exclaimed, “I remember – I remember you very well, Sasha. You were a* versifying *cadet* par excellence!» |
| Я, *от радости такой неожиданной встречи*, не знал, что делать; *опрометью побежал к гулявшим со мною товарищам известить их, что проезжает* наш дорогой поэт А. С. *Пушкин… Все поспешили* на почту. [1] | Young Engelhard was *so excited he ran off and told his friends and fellow officers that Pushkin was in town. They hurried back* to meet the poet. <br>[6, p. 203] |

Натуральна, пісьменнік замяняе першую асобу на трэцюю, бо амаль весь тэкст ідзе ад імя апавядальніка, які апісвае жыццё паэта. Таксама ён апускае маленькія падрабязнасці (імя дырэктара ліцэя, месца спаткання Пушкіна з афіцэрамі – пошта, мяняе слова «проворный» на «кадэт, які піша цудоўныя вершы»), але гэта ні ў якім разе не ўздзейнічае на танальнасць урыўка.

Што да другой часткі гэтай сцэны, то тут пісьменнік дае прастор сваёй фантазіі. Ён адштурхоўваецца ад Распопава, але дадае іншыя акцэнты і ўзмацняе эфект уздзеяння паэта на моладзь, якая жадае дэ-

макратычных перамен у краіне. Афіцэры пілі за здароўе паэта і былі так узрушаны, як быццам ім быў аказаны гонар піць з Яго Вялікасцю – самім царом усея Русі. Кіленз нагадвае эпізод з ваннай з шампанскім, але заканчвае яго не дэкламацыяй верша паэта, як у Распопава, а яго палымянай прамовай з заклікам да рэвалюцыі. Ён нават пачынае прамову словам «Таварышы», якое ў гэтым сэнсе ў XIX стагоддзі не выкарыстоўвалася і пашырылася толькі пасля кастрычніка 1917 г., і патрабуе, каб моладзь рыхтавала народную рэвалюцыю, а не палацавы пераварот, бо галоўнай мэтай патрыётаў Расіі павінна быць вызваленне ўсіх прыгнечаных – «таджыкаў, фінаў, калмыкаў, татар, узбекаў, казакаў, яўрэяў, але асабліва селяніна і так званага велікароса. Уздымайце кожнага рускага на рэвалюцыю. Нават чаркесаў. Усё ў вашых руках!» [6, с. 203].

Гэты эпізод з некалькімі падрабязнасцямі – плён фантазіі Кіленза, але «Вялікі чорны рускі» – не навуковая біяграфія паэта, дзе важная дакладнасць, апора на факты. Жанр мастацкай біяграфіі дазваляе аўтару стварыць атмасферу спаткання, дзякуючы чаму ён пазбег ілюстрацыйнасці, якая, на вялікі жаль, прысутнічае ў рамане. У выпадку з магілёўскай сцэнай фантазія пісьменніка здаецца абгрунтаванай. Пушкінскі верш «Вясёлы пір» выглядаў бы не зусім натуральным і нават банальным у тэксце біялетрызаванай біяграфіі, а прамова Пушкіна перад моладдзю дазваляла адчуць паралелі са знакамітым вершам «Помнік» – паэтычным запаветам вялікага рускага паэта, дзе ён сцвярджае:

Вядомы буду я на ўсёй Русі вялікай,
І імя маё кожны назаве язык,
І горды ўнук славян, і фін, і сёння дзікі
Тунгуз, і стэпаў друг калмык.

За гэта доўга буду любы я народу,
Што лірай лепшыя надзеі абуджаў,
Што ў мой суровы век праславіў я свабоду
І міласць да няшчасных зваў.

*(Пераклад М. Танка)*

Свабода – вось ключавое слова для Пушкіна, як і для Кіленза. Паказваючы, што для самаацэнкі паэта было вельмі важна яго

